


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

27 лютага 2004 года

№ 9 (462)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень 18


## Навіны рэгіёну

### Здох леапард

ВАЛОЖЫН. У час гастроляў Маскоўскага перасоўнага заапарка "Кубань" здох 16-гадовы леапард. Чуткі аб шаленстве былі пустымі. Усе прышчэпкі гасцям былі зроблены. Жывёліна здохла ад хваробы печані.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Канец «чарнілу»!

МЯДЗЕЛ. Выпуск пладовага асаблівага віна з канцэнтраваных сокаў спыняюць на Нарачанскім заводзе напояў. Замест яго з другога квартала пачнуць выпускаць вінаграднае віно і пладовае з натуральнай сыравіны.

Святлана ЦІШКО.

### Самая чыстая Чысць

МАЛАДЗЕЧНА. Чысцінскі сельсавет перамог у абласным конкурсе па добраўпарадкаванні.Прэмію ў 52 млн. рублёў патрацяць на прэміі для работнікаў камунальных службаў, а таксама на далейшае добраўпарадкаванне.

Святлана ЦІШКО.

### Першыя заняткі

АСТРАВЕЦ. Першыя заняткі на камп'ютэрах прайшлі ў Мальскай базавай школе. 5 машын для вучняў і адну для настаўніка перадало Міністэрства сувязі. Ёсць праграмы для пачаткоўцаў і старшакласнікаў. Раней на практычныя заняткі вучняў вазілі раз на месяц у Астравецкую СШ №2.

Ірына РАБУШКА.

### Хутка вясна

АШМЯНЫ. Учора ў філіяле нацыянальнага мастацкага музея, што ў Гальшанах, адкрылася выстава мінскай мастачкі Яўгеніі Ліс «Формы і фарбы майго краю». Работы Я.Ліс — гэта асабістае ўспрыняцце зямлі, Сусвету, вясны.

Ірына РАБУШКА.

### «Гэй, хлопцы!»

СМАРГОНЬ. У панядзелак, 23 лютага, падчас шоу-праграмы «Гэй, хлопцы!» вызначылі леншага смаргонца, а дакладней, смаргонцаў. Гэта каманда старшакласнікаў СШ №3 з 10 чалавек. А 6 сакавіка ў Доме культуры пройдзе конкурс «Міс Смаргонь-2004». За галоўную карону і прыз будуць змагацца 11 дзяўчат ад 16 да 24 год.

Ірына РАБУШКА.

### Падарыў жыццё

ВІЛЕЙКА. Камандзір аддзялення пажарна-выратавальнай часці Вадзім Кеўліч "падарыў" жыццё 30-гадовай жанчыне, якая спрабавала выкінуцца з акна. Ён выбіў дзверы ў пакой інтэрната, дзе тая жыла, і літаральна выхапіў яе з праёма акна.

Марына СЛІЖ.

# Хуткасных пакуль не будзе

**МАЛАДЗЕЧНА. Хуткасныя электрацягнікі, не зрабіўшы ніводнага рэйсу, адменены.**

Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі планавала ўвесці з 25 лютага хуткасныя электрацягнікі Мінск–Маладзечна (адпраўленнем у 19.02) і Маладзечна–Мінск (адпраўленнем у 7.24 і 19.54), замест ранейшых звычайных рэйсаў. Пасажырам папярэдне паведамілі, што цяпер яны могуць эканоміць на дарозе ў сталіцу ад 20 да 25 хвілін за кошт змяншэння колькасці прыпынкаў. Але беларусы, якія штодня ездзяць на электрычках, клопат работнікаў чыгункі не ацанілі. Пачуўшы пра запланаваныя змены, грамадзяне сталі тэлефанаваць і скардзіцца, што гэтыя рэйсы нязручныя: з 25 прыпынкаў цягнік будзе спыняцца максімум на 10. Таму 24 лютага пасажырскі цэх станцыі Маладзечна атрымаў тэлеграму аб адмене запланаваных рэйсаў. Электрычкі будуць хадзіць па ранейшым раскладзе. Як паведамілі "РГ" у маладзечанскім пасажырскім цэху, такі зыход на станцыі прадбачылі: шмат пасажыраў прыходзіла скардзіцца, і ім давалі тэлефоны Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі. Так што тэлеграму ў Маладзечне чакалі.

Хуткасныя электрычкі на маладзечанскім напрамку, па словах начальніка аддзела арганізацыі пасажырскіх перавозак Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі Дзмітрыя Казея, арганізуюць да сярэдзіны сакавіка. «З улікам просьбаў пасажыраў, — сказаў ён «РГ» у інтэрв'ю па тэлефоне, — будзем распрацоўваць такія маршруты. У Еўропе цяпер дэвіз — хуткасць і камфорт у прыгарадным пасажырскім цягніку. Гэта стане і нашым крэда. Таму што ад усіх перавозак на чыгунцы прыгарадныя займаюць 65%».



Увядзенне з 25 лютага хуткаснага электрацягніка Маладзечна–Мінск анансавалі сродкі масавай інфармацыі і аб'явы на станцыях. За дзень да рэйсу гэты маршрут быў адменены па просьбах пасажыраў. Фота Святланы ЦІШКО.

Беларусь, заўважыў Дзмітрый Казей, у арганізацыі перавозак пасажыраў адстала нават ад Расіі гадоў на 12. Там ужо даўно існуюць хуткасныя цягнікі, напрыклад, Масква—Мыцішчы (паўночны прыгарад Масквы).

Расклад, які ўжо ёсць, не зменіцца. Хуткасныя рэйсы будуць альтэрнатыўныя: чалавек зможа выбраць паміж хуткасцю і магчымасцю выйсці на самым маленькім прыпыначным пункце. Цана білета таксама не зменіцца, прынамсі на першым часе. «Нам неабходна зацікавіць пасажыра. Калі людзі прывыкнуць да новага рэйсу, кошт білета можна будзе павысіць» — растлумачыў Дзмітрый Казей.

Хуткасныя цягнікі менш затрачваюць электраэнергіі. Найбольшая яе колькасць трацішча на разгон і тармажэнне на кожным прыпынку. Чым менш прыпынкаў — тым менш затрат энэргіі. Эканамічныя страты могуць узнікнуць за кошт змяншэння колькасці пасажыраў, якіх цікавіць якраз прапушчаныя прыпынкі. Аднак практыка паказвае, што хуткасныя рэйсы вельмі папулярныя. З 1 лютага існуе хуткасны электрацягнік Баранавічы—Мінск—Жданövічы. Рэвізоры (кантралёры) дакладваюць у аддзел арганізацыі пасажырскіх перавозак, што ён напаўняецца амаль на 100%. «Ды што рэвізоры! — сказаў Дзмітрый Казей. — Я сам сустракаю яго на вакзале і бачу колькасць пасажыраў».

Апытанне, па яго словах, паказала зацікаўленасць станцый маладзечанскага напрамку ў гэтым маршруце.

Даехаць да Мінска менш чым за 2 гадзіны пакуль што можна цягнікамі далёкага накіравання. Праўда, паездка абыдзецца ўдвая даражэй. Напрыклад, білет на цягнік Мінск—Вільня, які ад Маладзечна да сталіцы ідзе 1 гадзіну 18 хвілін, каштуе каля 5 тысяч рублёў.

Святлана ЦІШКО.

### Залатая бульба



Залатой па цэнах бульбай кормяць дзяцей у некаторых школах Вілейшчыны.

3-я старонка

### Ці лупцаваць?



Ці варта лупцаваць дзяцей? Аказваецца, не ўсе адказваюць адмоўна на гэтае пытанне.

5-я старонка

### Першы ў Маладзечне



Якім быў першы маладзечанскі пасляваенны гарадскі аўтобус? Успаміны сына яго вадзіцеля.

8-я старонка

## Зоркі ў «Галактыцы»

**МАЛАДЗЕЧНА. Прэзентацыю новага сезона, які называецца "З шыкам, з бляскам", ладзіў 24 лютага забаўляльны цэнтр "Галактыка".**

На прэзентацыю былі запрошаныя журналісты ўсіх зарэгістраваных гарадскіх газет і значныя асобы горада (прадстаўнікі гарвыканкама, дырэктары вядучых прадпрыемстваў і банкаў).

У сваім выступленні дырэктар цэнтра **Уладзімір Комар** адзначыў: "Мы падтрымліваем імідж дарагога рэстарана. Нашымі гасцямі могуць стаць як забяспечаныя людзі, так і людзі культурныя". Пасля гасцям прапанавалі пазнаёміцца з усімі заламі і паслугамі цэнтра: малой і вялікай банкетнай залай, дзіцячым кафэ, кіназалай, більярднай і дыскатэкай. У апошняй, дарэчы, ёсць пляцоўка з шастом для выступлення стрыптызёраў. Арганізатары запэўнілі прысутных у тым, што "Галактыка" запрашае стрыптызёраў не толькі жаночага, але і мужчынскага полу.

Затым была пачостка, падчас якой выступаў шоу-балет "Алекс" з Мінска. Танец адзінага ў групе артыстаў мужчыны высока ацанілі прысутныя жанчыны. А вось рухі яго калегаў-дзяўчат часам здаваліся нязладжанымі. Як заўважыў у эксклюзіўным інтэрв'ю "РГ" загадчык аддзела фізкультуры і спорту гарвыканкама **Мікалай Шрымф**: "Гэтыя дзяўчаты відавочна не для гэтай сцэны. На больш шырокай сцэне яны б адчувалі сябе больш раскавана". Але ўсе недахопы кампенсаваліся яркімі разнастайнымі касцюмамі артыстаў.

Завяршыўся вечар дыскатэкай.

**Святлана ЦІШКО.**

■ **МАСТАЦТВА**

# Адораная талентам

**МАЛАДЗЕЧНА. Можа, Ядвіга Сянько, мастачка з Маладзечна, калісьці і не ведала свайго прызначэння на гэтай зямлі, але, напэўна, заўсёды адчувала яго і чакала...**

Яе персанальная выстава іканапісу пад назвай "Пакуль жыву, Табе малюся..." прайшла у Цэнтральнай бібліятэцы імя Багдановіча. Потым адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны творчасці мастачкі. Дзякуючы намаганням кіраўніцтва бібліятэкі, выставу наведала шмат школьнікаў, навучэнцаў, студэнтаў і педагогаў, а таксама прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі і работнікаў культуры, ды і проста людзей, неабыякавых да ўзвышанага і прыгожага. Хаця, па словах самой Ядвігі Сянько, да творчай сустрэчы яна спецыяльна не рыхтавалася, не рэкламавала сябе і не запрашала кагосьці асабліва, бо вельмі хацела, каб прыйшлі паглядзець на яе іконы і яе паслухаць менавіта тыя, каму гэта сапраўды патрэбна. "Пакуль жыву, Табе малюся...". Словы – ад душы, ад сэрца і да душ усіх навакольных...

Іканапіс. Найэлітарнейшы пласт у выяўленчым мастацтве... Тыя абразы, напісаныя рукой Ядвігі Сянько, што глядзяць на цябе са сцен бібліятэкі, здаецца, боскаю праекцыяй у гэтым свеце... Вочы Божай Маці Дзяржаўнай, што вымушаюць трымцець тваё сэрца... Залатыя вобраз багародзіцы Мінскай, начная – сіняя ікона "Замілаванне", Божая Маці Уладзімірская ў пурпурным убранні... "Неўвядальны цвет", дзе Маці Божая трымае ў руцэ белую кветку, а ў вачах яе – увесь Сусвет...

Усіх ікон не пералічыць, іх нават немагчыма сабраць у адной зале, бо ў мастачкі іх больш за чатырыста. Некалі даўно яна стварыла першую, падаравала потым Красненскаму касцёлу. Атрымаўшы адукацыю мастака ў Маскоўскім народным універсітэце, працаваўшы афарміцелем на розных прадпрыемствах горада ("Спадарожнік", "Бярозка", "Камунальнік", рэкламныя агенцтвы), Ядвіга Сянько займалася жывапісам, стварала цудоўныя непаўторныя нацюрморты, пейзажы і ішла сваім шляхам да Бога. Хаця сама заўсёды жыла з верай, бо сям'я не была вельмі рэлігійная, каталіцкая. Нават у савецкія часы, можа, дзякуючы сваёй адасобленасці, "заходнасці", мясцовыя каталікі здолелі захаваць сваё, асаблівае, нейкі рамантызм, вытанчанасць. Так і ўзнікаюць у думках вобразы: белыя-белыя сукенкі дзяўчат у моманты канфірмацыі; адначасова і пышныя, і стрыманыя набажэнствы на польскай мове, штогадовыя фэсты ў Будславе, ружанец Божай маці ды амаль анёльскія галасы дзяцей падчас перадкалядных спеваў.

Усё гэта не магло не накласці свой адбітак на тонкую душу Ядвісі. Дарэчы, і цяпер, асабліва цяпер, яна, як ніколі, увасабляе сабой вобраз Пані, Жанчыны з вялікай літары. Светлая, стройная, у вялікіх вачах адначасова і пяшчота, і сіла. Яе духоўныя пошукі паспяхова завяршыліся ў Мінску,ператварыўшыся ў супрацоўніцтва з таварыствам "Праваслаўная кніга", якое і пачало заказваць мастачцы іконы. З благаслаўлення Мітрапаліта Філарэта яна пачала рабіць спісы з усіх вядомых у праваслаўным свеце абразоў. Ёсць у Ядвігі і апрацоўкі вядомых біблейскіх сюжэтаў, і іконы каталіцкія, дзе ў незямным блакіце свецяцца ўзнёслыя лікі Мадонны і сына Божага і цыкл "Анёлы-ахоўнікі", найбольш тонка і пяшчотна выпісаны, выкананы ў зусім светлых ружовых і бэжавых фарбах. Такія анёлы ёсць у кожнага дзіцяці, падчас сну яны ахоўваюць, прыносяць радасныя думкі і застаюцца назаўсёды з ім, дарослым, калі яго ўнутраны свет нічым не азмрочаны.

У творчасці мастачка з юных гадоў арыентавалася на майстроў Рэнесанса, на кананічнасць і класіцызм, таму і боскія вобразы, і твары анёлаў уражваюць сваёй правільнасцю. Гэта тычыцца выбару колеру і фарбаў, пазітыўнага настрою, якім авеяны ўсе яе работы. Таму пасля выставы ды сустрэчы з творцай адчувалася такая натхнёнасць, здавалася, што ў самога за гэты час з'явіліся крылы.

**Таццяна ШЭЛЕГ.**

■ **ДУМКІ ЎСЛЫХ**

## Наша хата не з краю

У Смаргонскім раённым аддзеле па надзвычайных сітуацыях збіралі грошы. Звычайны цэлафанававы пакецік насілі з кабінета ў кабінет, і ён увачавідкі напаўняўся купюрамі рознай вартасці. "У вас штосьці зрабілася?" — спыталася ў старшага памочніка начальніка штаба Генадзя Ушакевіча. "Не ў нас, у ваўкавыскага калегі сын захварэў. Тэрмінова трэба рабіць аперацыю на сэрцы, платную!". Высветлілася, што вось так, пускаючы шапку па крузе, дапамагаюць яны адно аднаму не першы раз. Мауляў, цяжка ў наш час чалавеку справіцца з бядой. Апчадных жа кніжак, з якіх у цяжкую хвіліну можна было б зняць грошы, больш няма.

Гора прыходзіць у дом няпрошана і звычайна тады, калі яго менш за ўсё чакаюць. Не думалі, не гадалі, што нараджэнне дзіцяці абернецца такой бядой, і Алеся з Іванам, сыну якіх страшны дыягназ паставілі ў трохмесячным узросце. "Дапамагчы вам змогуць толькі ў Расіі, — сказалі ім сталічныя спецыялісты. – Знойдзеце грошы – вылечыце дзіця, а не – чакаць давядзецца горшага". Адной кансультацыяй не абышлося. Праз месяц ім давялося ехаць у Маскву другі, затым трэці, чацвёрты раз. Хлопчыку стала лепш, дактары настойліва раілі не адмаўляцца ад лячэння. А бацькі не ведалі, дзе ўзяць грошы не тое што на чарговы курс лячэння, нават на білет.

Перажываючы за лёс пляменніка, сястра Івана прыйшла ў рэдакцыю мясцовай газеты. Там са слязамі на вачах і расказала пра гора, якое прымусіла звярнуцца да чужых людзей. У чарговым нумары газеты журналісты расказалі пра маленькага чалавечка, якому патрэбна дапамога. На другі ж дзень на спецрахунак у банку сталі паступаць грошы. Пералічвалі іх як арганізацыі, калектывы, так і гараджане. Асобныя прынасілі грошы проста ў рэдакцыю альбо дадому бацькам. "Дайце нам адрасы гэтых людзей, назавіце прозвішчы, каб пайсці, пакланіцца ў ногі", — прасіла расчуленая бабуля. Кінуліся – а большасці няма, бо многія не захацелі назваца. Маўляў, навошта, каб сям'я ўвесь час адчувала, што нам нешта павінна. Вы лепш напішыце ў газеце, як там хлопчык, а яшчэ лепш, здымачак дайце, цяпер у яго шмат "радні" ў раёне.

"Чужая болька не колка,"— кажуць у народзе. "Чалавек чалавеку воўк," – вучыў, разважаючы пра рэаліі сённяшняга жыцця, адзін мой знаёмы. А я, расчуленая ўчынкам Смаргонскіх выратавальнікаў, усю зваротную дарогу ў Маладзечна ўспамінала выпадкі, калі адны людзі дапамагалі другім, нічога не патрабуючы ўзамен, і спрачалася, спрачалася з імі ў думках. Бо даўно ўжо зразумела, што людзей злых, абыякавых, назадаволеных куды менш, чым добрых і шчырых. Менавіта на апошніх і трымаецца зямля, бо іх хата ніколі не бывае з краю, бо ім і чужая болька колка.



**Разважала Марына СЛІЖ.**

## Рэпертуар Мінскага абласнога драматычнага тэатра на сакавік

**Ранішнія спектаклі**

5 пятніца 13.00, 12 пятніца 14.00 **"Зоркі Летавіцы"** Зінаіда Дудзюк
19 пятніца 13.00, 20 субота 12.00 **"Папялушка"** (казка ў 2-х дзеях аб самых першых і светлых пачуццях) Яўген Шварц

**Вячэрнія спектаклі**

4 чацвер 19.00 **"Нязваны госць"** (ну, ве-е-ельмі сур'ёзная камедыя) Святлана Бартохава
ПРЭМ'ЕРА. 6 субота, 17.00 24 серада 18.00 **"Люці"** (меладраматычны дэтэктыў) Аляксей Дудараў
24 сакавіка пасля прагляду спектакля адбудзецца сустрэча з акцёрамі, якія занятыя ў спектаклі.
9 аўторак 19.00, 23 аўторак 19.00 **"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** (дапаможнік для будучых раганосцаў у 2-х камедыях) Марсэль Берк'е-Мерыньё А.Курбскі
10 серада 19.00 **"КІМ"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў
11 чацвер 19.00 **"Без мяне мяне жанілі"** (камедыя ў 2-х дзеях) Франц Ксавер Кроц
12 пятніца 19.00 **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча) Уладзімір Рудаў
14 нядзеля 17.00 **"Хочаш вер – хочаш не вер..."** (жартоўная камедыя ў дзвюх дзеях) Юры Вута
21 нядзеля 17.00 **"Сільвія"** (меладрама-трагікамедыя пра каханне) А.Герні
25 серада 19.00 **"Матухна Кураж і яе дзеці"** (ганддёвы мюзікл) Бертольд Брэхт
Міжнародны дзень тэатра. 27 субота 17.00 **"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы) Юры Вута
31 серада 19.00 **"Сіні аўтамабіль"** (трагікамедыя-рэтра) Яраслаў Стэльмах. Спектакль ідзе на рускай мове
Мастацкі кіраўнік – Валерый Ласоўскі. Тэл. для даведак: 5-24-17 – каса, 6-17-32 – выкладчык-арганізатар.

## Рэпертуар Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка" на сакавік

7 нядзеля 12.00 Прэм'ера. Х.Юркоўскі. **"Ты і я...Лялечнік"** (казка)
14 нядзеля 12.00 С.Кавалёў. **"Заяц варыць піва"** (казка)
21 нядзеля 12.00 Я.Сперанскі **"Незвычайныя спаборніцтвы"** (казка)
28 нядзеля 12.00 Ул. Карастылёў. **"Доктар Айбаліт"** (казка)
Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: вул. Draздовіча, 5-в. Тэл. 5-36-73, 6-84-27. Каса працуе з 10.00 да 14.00.

■ ШКОЛЬНАЕ ХАРЧАВАННЕ

# Залатая бульба, горкае мяса

## Дарагімі, а часта і непрыгоднымі да ўжывання прадуктамі кормяць дзяцей у некаторых школьных сталоўках Вілейшчыны

**ВІЛЕЙКА. Упраўленне антыманапольнай і цэнавай палітыкі Мінаблвыканкама сумесна з Маладзечанскім цэнтрам метралогіі і стандартызацыі, рэвізорамі кантрольна–рэвізійнага ўпраўлення Мінфіна праверыла работу школьных сталовак Вілейшчыны. У 17 школьных сталоўках раёна штодня харчуецца больш за 2 з паловай тысячы вучняў.**

Праверка ўстанавіла, што прадукты адпускаюцца ў сталовыя без уліку фізіялагічных нормаў харчавання. Большасць прадуктаў – дарагія фрукты, кілбасы, марожанае, шакалад, цукеркі, пячэнне. Адным словам, тыя прадукты, якія не патрабуюць вялікіх намаганняў у прыгатаванні.

Асабліва гэтым адзначыліся сталоўкі ў школах ў Хаценчыцах, Асіпавічах (вёсках з радыеактыўным забруджваннем), Даўгінаве, Касцяневічах, Язнях. Напрыклад, у Хаценчыцкай школе 20 верасня дзетак кармілі пячэннем "Аўрора", вафлямі "Сливочные", вафельным батончыкам, піроўжным "Кроха", ківі. У Касцяневічах у верасні школьнікі елі пячэнне, кандытарскія вырабы ўласнай вытворчасці, паліваныя сыркі, бутэрброды з кілбасой, пернікі…

Перад самым пачаткам навучальнага года Мінскі аблспажыўсаюз (школьнае харчаванне ў Вілейскім раёне забяспечвае райспажыўтаварыства, якое ўваходзіць у сістэму аблспажыўсаюза) дае пісьмовую рэкамендацыю ў раёны закупляць для школьных сталовак бульбу па цане 150 руб. за кг. Цэны блізкія да рэальных. У гэты самы час сяляне здавалі ў нарыхтоўчыя арганізацыі бульбу па цане 150–200 руб. за кг. І райспажыўтаварыства зацвярджае закупачную цану на бульбу ў 180 руб. Аднак у некаторых школах бульба закуплялася па цане 350–400 руб. за кг. Аналагічныя метамарфозы адбываліся з цэнамі на моркву і буракі. У выніку, гаворыцца ў дакументах праверкі, гэта пацягнула падаражэнне кошту харчавання. Напрыклад, кошт бульбянога пюрэ вагаўся ў залежнасці ад цаны закупкі ад 30 да 120 рублёў за 100 г.

Летам на базе школ стваралiся дзіцячыя аздараўленчыя пляцоўкі. На некаторых з іх дзеці рызыкавалі атрымаць харчовае атручванне. У чэрвені, напрыклад, райветлабараторыя па просьбе фінансавага аддзела Вілейскага райвыканкама праверыла 10 кг, нібыта паўфабрыкат, свініны, якая была ў сталоўцы Вязынскай школы і прызначалася для харчавання дзяцей. На самой справе, у дзвюх пробах былі птушыны тлушч і адходы птушыных тушак. Усё непрыдатнае для ўжывання ў ежу.

Праверкай былі выяўленыя і іншыя парушэнні ў арганізацыі харчавання школьнікаў Вілейшчыны. Выдадзеныя прадпісанні аб ухіленні недахопаў.

**Мікола ГАЙДУК.**

Што зварыш, тое і з'ясі. Добра, калі пра школьнікаў работнікі сталовак клапоцяцца, як пра сваіх родных.
Фота з архіва "РГ".

### Закупачныя цэны

руб. за кг, дадзеныя восені 2003 года.

| Школа | Бульба | Морква | Буракі |
|---|---|---|---|
| Залессе | 100 | 30 | 30 |
| Карпавічы | 350 | 500 | 550 |
| Хаценчыцы | 400 | 500 | 550 |
| Іжа | 400 | 500 | 100 |
| Мацькаўцы | 130 | 130 | 130 |

**Вілейскі райспажыўсаюз рэкамендаваў школьным сталоўкам закупляць бульбу па цане 180 руб. за кг. Некаторыя здолелі знайсці гэты тавар нашмат танней. Некаторыя – не. Таму і кошт абедаў у розных школах быў вельмі розным.**

■ СПАЖЫВЕЦКІ РЫНАК

# Гаючы алкаголь для беларуса

**Летась кожны беларус выпіў амаль 52 літры алкагольных напояў – па адным літры за тыдзень. Насамрэч, раэльная лічба спажытага алкаголю была ці не ўдвая большай, бо з ліку пітушчых трэба выключыць дзяцей, многіх састарэлых ды проста цвярознікаў. Сума, выдаткаваная на алкаголь, была амаль што роўная месячнаму заробку, а калі браць прыбыткі калгаснікаў, то 2-3-месяцаваму заробку – 152 тысячы рублёў.**

Дзіўна мяняюцца перавагі беларусаў у алкаголі. Чатыры гады таму сярэднестатыстычны беларус выпіў прыкладна столькі ж, колькі летась, але сярод іншага – 1 бутэльку каньяку, 27 бутэлек гарэлкі ды 31 бутэльку віна. Летась жа каньяку выпала толькі чарка – 150 грамаў, гарэлкі – менш за 16 бутэлек, затое вінаў – 34 бутэлькі. Паколькі якасныя віны на Беларусі каштуюць удвая-ўтрая даражэй, чым у суседніх краінах, то асноўная частка алкаголю прыпадае якраз на пладова-ягадныя напоі. Выглядае, што, усталёўваючы высокія кошты на натуральныя вінаградныя віны, беларускі гандаль абараняе інтарэсы ўласных вытворцаў нізкаякасных напояў.

Калі і піць – дык традыцыйна карысныя беларускія бальзамы, раіць **Ірына Жарава**, галоўны спецыяліст Галоўнай управы па вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі канцэрна "Белдзяржхарчпрам".

**І.Ж.**: - Незаслужана абыдзеныя ўвагай бальзамы, якія вырабляюць на нашых лікёра-гарэлачных прадпрыемствах краіны. Мы бачым рэкламу і набываем вядомыя замежныя бальзамы. Але нашыя напоі нічым не горшыя за замежныя, яны зробленыя на натуральнай сыравіне. Іншая справа, што нашыя прадпрыемствы не маюць дастаткова сродкаў, каб аформіць сваю прадукцыю як лекавую ды прадаваць яе праз аптэчную сетку ў якасці аздараўленчых прадуктаў.

Атрымліваецца, што і айчынная фармацыя не хоча бачыць на сваіх паліцах беларускую прадукцыю, бо яна намнога таннейшая за замежныя бальзамы. Іх сертыфікавалі як лекавыя прадукты і як лекавыя рэкламуюць, а беларускія – не.

**І.Ж.**: - Рэклама алкагольнай прадукцыі забароненая. Але гэта не толькі алкагольны прадукт, бо мае іншую функцыю. Для вытворчасці бальзамаў выкарыстоўваюць унікальную раслінную сыравіну, нашыя славутыя зёлкі – зуброўку, мелісу, кедравыя арэшкі, якія ў цэлым паляпшаюць стан і ўмацоўваюць арганізм чалавека.

З аднога боку, дзяржава заклапочаная здароўем нацыі: яна спрабуе прышчапіць моладзі думку, што быць здаровым – гэта модна. З іншага – п'яным і недалёкім чалавекам лягчэй кіраваць, чым здаровым ды цвярозым.

**Паводле «Радыё Свабода», Алесь ХМЯЛЬНІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 19.2 руб. | 26.2 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2154,00 | 2152,00 |
| Еўра | 2777,69 | 2726,37 |
| Злоты | 568,47 | 557,73 |
| Літ | 804,35 | 789,62 |
| Расійскі рубель | 75,62 | 75,52 |

«Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2160/2170 | 2160/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 18.2 | 25.2 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 4890 | 4890 |
| Селядзец, 1 кг | 3000 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1000 | 1000 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1600 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1570 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 1000 | 950 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 980 | 1050 |
| Капуста, 1 кг | 350 | 450 |
| Морква, 1 кг | 650 | 500 |
| Лімоны, 1 кг | 3200 | 3000 |
| Апельсіны, 1 кг | 2200 | 2050 |
| Яблыкі, 1 кг | 850 | 1100 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2400 | 2600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 2000 |
| Сала, 1 кг | 3300 | 3500 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1100 |

■ ПОСТ ДАІ

# На заснежанай дарозе

## Калі вы заўважылі небяспечны стан дарогі – патэлефануйце па кругласутачным тэлефоне ДАІ

**Снежная зіма сёлета стала прычынай многіх дарожна-транспартных здарэнняў. Сітуацыя ўскладняецца рэзкімі перападамі тэмпературы. У першыя дні лютага тэмпература паветра павышалася да 4–5 градусаў па Цэльсіі. Снег таяў, ішлі дажджы, стаялі туманы – бачнасць на дарогах значна пагоршылася, асабліва ўначы.**



Колькасць здарэнняў на дарогах расце. Фота ByMedia.Net

### Здарэнні

Сёлета на дарогах рэгіёну не стала менш напружана. Толькі з пачатку года на Маладзечаншчыне ў дарожных здарэннях загінула 5 чалавек. 9 атрымалі раненні.

Раніцай 2 студзеня на 65-м кіламетры дарогі Мінск-Нарач жыхар Мінска не справіўся з кіраваннем "Альфа-Рамэа", выехаў на паласу сустрэчнага руху, сутыкнуўся з сустрэчнай "Акой", якой кіраваў чысцінец. Вадзіцель і абодва пасажыры "Акі" трапілі ў бальніцу.

У той самы дзень ў 15.30 ужо на дарозе Маладзечна-Хажова-Ермакі вадзіцель МПМК-197 Аляксандр А. не справіўся з кіраваннем службовых "Жыгулёў" (ВАЗ-2106) і выехаў у вёсцы Хоўхлава на паласу сустрэчнага руху, сутыкнуўся з аўтамабілем МАЗ, які належыць ДРБУ-195. У выніку здарэння загінуў дырэктар МПМК А.С., які ехаў у "Жыгулях" пасажырам.

На наступны дзень у Маладзечне на вуліцы Віленскай ля атэлье "Бярозка" Ігар К., які ехаў на машыне "Опель-Рэкорд", наехаў на Марыю С. Яна пераходзіла праезную частку ва неўстаноўленым месцы. Пацярпелая трапіла ў бальніцу са шматлікімі раненнямі.

Вечарам 9 лютага пад колы неўстаноўленай аўтамашыны трапіла Соф'я Л., якая ішла па правым баку праезнай часткі вуліцы Маўчанскага.

### Тэлефон даверу

Здараецца, што нават будучы невінаватымі ў здарэнні з-за страху перад адказнасцю знікаюць з месца здарэння. Амаль у кожнага здарэння ёсць сведкі і відавочцы. Аднак многія не звяртаюцца ў органы ўнутраных спраў, каб не фігуравала імя, або проста не ведаюць, куды звярнуцца.

**Для прыцягнення грамадскасці да вырашэння праблем у дарожным руху, расследавання здарэнняў, прафілактыкі ўгонаў ва Упраўленні ДАІ Мінскай вобласці кругласутачна працуе тэлефон даверу: 8-017-256-15-36.**

Па гэтым тэлефоне можна перадаць інфармацыю аб дарожных здарэннях і злачынствах, стане праезнай часткі на дарогах, аб пакінутых без гаспадара аўтамабілях, аб станоўчым і негатыўным ва ўзаемаадносінах з работнікамі ДАІ.

### Даражыце жыццём

Пешаход ніколі не павінен забываць пра правілы бяспекі на дарозе.

Рухайцеся па тратуарах, пешаходных дарожках або абочынах. Калі іх няма – па краі праезнай часткі насустрач руху транспарту. Пераходзьце праезную частку па пешаходных пераходах. У выпадку іх адсутнасці – на скрыжаваннях па лініі тратуараў і абочын. Калі ў зоне бачнасці няма пераходу або скрыжавання – пераходзьце дарогу пад прамым вуглом да яе прадольнай восі на ўчастку, дзе яна праглядаецца ў абодва бакі, пераканаўшыся, што пераход бяспечны.

Не затрымлівайцеся і не спыняйцеся на праезнай частцы дарогі, за выключэннем, калі гэта прадугледжана правіламі. Не выходзьце на праезную частку з-за транспартнага сродку або іншага аб'екта, які абмяжоўвае бачнасць, не пераканаўшыся ў адсутнасці транспартных сродкаў, што набліжаюцца.

У цёмны час сутак вадзіцель выяўляе пешахода, у якога да адзення прымацаваны святлоадбівальнік, са значна большай адлегласці, чым у выпадку, калі пешаход не азначаны такім чынам. Пры руху з уключаным бліжнім святлом адлегласць выяўлення павялічваецца з 25–40 метраў да 130–140 метраў, а пры дальнім святле – да 400 метраў. Выкарыстанне святлоадбівальніку зніжае рызыку наезду аўтамабіля на пешахода ў цёмны час сутак ў 6,5 раза!

**Уладзімір ЛУКАШЫК, інспектар Маладзечанскага ДАІ па адміністрацыйнай практыцы.**

■ АХОВА ПРАЦЫ

# Цана нядбайнасці

**За мінулы год у Маладзечне адбылося роўна ў 2 разы больш цяжкіх няшчасных выпадкаў на вытворчасці, чым у папярэднім. Адзін з іх адбыўся ў кастрычніку з рабочым завода металаканструкцый (ЗМК). У выніку здарэння дактары ампутавалі яму левую руку.**

Электразваршчык завода металаканструкцый Ігар З. 8 кастрычніка застаўся, як гавораць дакументы расследавання выпадку, па сваёй ініцыятыве на 2-ю змену. У цэху практыкуецца адпрацоўваць рабочым раней недапрацаваны, з-за прастою час. Працаваў у брыгадзе яшчэ з трыма электразваршчыкамі. Брыгада выконвала ўнутраныя работы ў секцыі металічнай вежы на спецыяльным ролікавым стэндзе. Дыяметр секцыі 3 з паловай метры, даўжыня (секцыя ляжала на стэндзе) 8 з паловай метраў.

Тэхналагічны працэс заключаўся ў тым, што секцыя час ад часу пракручвалася на ролікавым стэндзе, фіксавалася, рабочыя выконвалі электразварачныя работы, затым секцыя зноў пракручвалася, каб зрабіць даступнымі наступныя фрагменты зварваемых дэталяў і вузлоў і г.д. У адзін з момантаў, калі кручэнне ролікаў зварышчык Ігар З. адключыў, секцыя пад уздзеяннем змешчанага цэнтру цяжару пачала сама па сабе перамяшчацца ў адварotны бок. Ігар З., каб спыніць самастойнае перамяшчэнне шматтоннай секцыі, падсунуў між ёй і ролікамі кавалак дошкі. Дошку пачало засцягваць, рукавіца рабочага разам з левай рукой апынулася між ролікам і секцыяй. Толькі аператыўная дапамога членаў брыгады, якія наклалі жгут, і дактароў захавала жыццё Ігару З. Аднак ён застаўся без левай рукі.

У момант траўміравання 23-гадовы Ігар З. быў у нецвярозым стане, што пацвярджаецца вынікамі медэкспертызы.

Аднак прычынамі здарэння былі не толькі стан рабочага. Не адпавядаў патрабаванням бяспекі тэхналагічны працэс. Ролікавы стэнд разлічаны быў на канструкцыі меншага дыяметру. На рабочым месцы не было эксплуатацыйнай дакументацыі, рабочы Ігар З. быў дапушчаны да работы на стэндзе без навучання, праверкі ведаў і інструктажу па ахове працы. Як высветлілася пры разборы выпадку, драўляная дошка, як элемент тэхналагічнага працэсу – тормаз, – выкарыстоўвалася і раней. Неадноўчы.

Памочнік Маладзечанскага міжрайпракурора **С.Цярэшчанка** адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па гэтым выпадку. Заключэннем Маладзечанскай міжраённай інспекцыі па працы вінаватымі ў парушэнні заканадаўства аб працы і ахове працы прызнаны галоўны тэхнолаг ЗМК **Міхаіл Губараў**, намеснік начальніка вытворчасці **Пётр Вашкевіч**, начальнік цэха **Фёдар Белавус**.

Сярод мерапрыемстваў, прадпісаных інспекцыяй па працы да выканання на заводзе, – забарона работы на ролікавым стэндзе, распрацоўка тэхналагічнай дакументацыі, навучанне і праверка ведаў у персаналу па ахове працы.

**Андрэй КВЯТКОЎСКІ, дзяржінспектар працы.**

### Няшчасце на рабоце

**МАЛАДЗЕЧНА. За мінулы год у Маладзечне інспекцыяй па працы зафіксаваны 33 няшчасныя выпадкі на вытворчасці. 14 з іх – з цяжкім зыходам.**

| Прадпрыемства | Дата выпадку |
|---|---|
| Аўтобусны парк №4 | 24 студзеня |
| Ф-л "Універсалрамбуд" | 24 сакавіка |
| "Маладзечналес" | 8 красавіка |
| "Маладзечнаводаканал" | 21 мая |
| "Аддзелачнік -198" | 11 жніўня |
| "Белпрамвест-ІТЦ" | 18 жніўня |
| ПМК-212 | 26 жніўня |
| "Слава" | 24 верасня |
| ПМК-212 | 26 верасня |
| "Скарпіён" | 27 верасня |
| "Маладзечналес" | 2 кастрычніка |
| З-д металаканструкцый | 8 кастрычніка |
| Дыстанцыя пуці | 21 кастрычніка |
| Станцыя Маладзечна | 7 снежня |

**Як і раней, адна з асноўных крыніц траўматызму – прадпрыемствы, дзе выкарыстоўваецца дрэваапрацоўка. Да работы дапускаюцца рабочыя, якія не прайшлі навучанне і праверку ведаў. Станкі эксплуатуюцца без агароджання рэзальнага інструмента. Не захоўваюцца патрабаванні бяспекі пры рабоце на вышыні.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

### У аўтобусе №11

**МАЛАДЗЕЧНА. 19 лютага ў гарадскім аўтобусе 11-га маршруту абакралі жанчыну.**

Адбылося гэта раніцай за 15 хвілін, што маладзечанка знаходзілася ў аўтобусе. У яе расшпілілі сумачку і выцягнулі адтуль кашалёк з грашыма і пашпартам. Узбуджана крымінальная справа.

### Хацеў пакатацца

**МАЛАДЗЕЧНА. У Радашкавічах па вуліцы Пралетарскай з гаспадарчай пабудовы ўкралі матацыкл.**

Злодзеем аказаўся 17-гадовы радашкавец. Ён хацеў пакатацца. Узбуджана крымінальная справа.

### Знікла золата

**МАЛАДЗЕЧНА. У кватэры па вуліцы Скарыны, 47 зніклі залатыя вырабы.**

Муж гаспадыні прыводзіў сюды сяброў па чарцы. Вядуцца пошукі злодзея. Узбуджана крымінальная справа.

### Параніла мужа

**МАЛАДЗЕЧНА. У адным з дамоў па вуліцы Велікасельскай падчас сямейнай сваркі жонка параніла мужа нажом у жывот.**

Абое былі нецвярозыя. Пацярпелы знаходзіцца ў бальніцы. Узбуджана крымінальная справа.

### На месцы злачынства

**МАЛАДЗЕЧНА. На месцы злачынства затрымалі маладзечанца, які залез у аўтамабіль, што стаяў у двары па вуліцы Віленскай, 13.**

Злодзей узламаў дзверы машыны. Скрасці нічога не паспеў. Узбуджана крымінальная справа.

### Разбойнае нападзенне

**МАЛАДЗЕЧНА. У гандлёвым павільёне «Джынсы» паблізу Цэнтральнай плошчы а 16-й гадзіне 19 лютага адбылося разбойнае нападзенне.**

Трое невядомых, пагражаючы нажом прадаўшчыцы, забралі жаночыя джынсы 48-га памеру. На выглад рабаўнікам ад 19 да 25 год. Узбуджана крымінальная справа.

**Па зводцы гаррайаддзела ўнутраных спраў падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

### Вышэйшая мера

**МІНСК. У сіле пакінуў прыгавор Мінскага гарадскога суда аб прызначэнні вышэйшай меры пакарання 32-гадоваму Мікалаю Дабрынеўскаму Вярхоўны суд Беларусі. Такое рашэнне было прынята крымінальнай калегіяй суда пасля разгляду касацыі 20 лютага.**

Нагадаем, што М.Дабрынеўскі быў прысуджаны да расстрэлу за учыненне ў Мінску ў 2003 годзе забойства з асаблівай жорсткасцю пяці чалавек. Усіх сваіх ахвяраў ён, будучы п'яным, засек кухонным сякерай. Улічваючы, што злачынца раней ужо быў тройчы судзімы, у тым ліку і за забойства, Мінгарсуд вырашыў, што не мае сэнсу пакідаць злачынцу ў жывых. Вярхоўны суд з такім вердыктам пагадзіўся. Цяпер М.Дабрынеўскаму застаецца толькі разлічваць на ласку Камісіі па памілаванні і кіраўніка дзяржавы.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Лупцаваць ці не?

**Размаўляючы з бацькамі дзяцей, якія ў чым–небудзь завінаваціліся, час ад часу даводзіцца чуць: "Зараз прыйдзем дадому, ты ў мяне атрымаеш!".**

Назіраючы рэакцыю падлетка на гэтыя словы, бачыш, як ён ўцягвае плечы ў сябе, можа, успамінае былыя ці магчымыя пабоі. Пабоі ў царскай Расіі, у якую ўваходзіла і Беларусь, былі звычайнай з'явай. Дастаткова ўспомніць народную мудрасць: "Б'е – значыць любіць."

Вось што можна знайсці пра пабоі ў гісторыі Расіі. Па суботах у кожнай сям'і праходзіла "ачышчэнне грахоў", назапашаных за тыдзень. Чаму па суботах? Таму што, згодна з Бібліяй, субота – гэта дзень, калі Бог лячыў.

Для лупцоўкі ўсіх дзяцей збіралі ў самым святым месцы – пад іконамі. Старэйшыя прыходзілі са свежымі бярозавымі розгамі. Ужываліся розгі з вярбы і другія, у залежнасці ад мясцовасці. Спачатку бацька сёк старэйшых – усіх, хто не меў сваёй сям'і і жыў у бацькоўскім доме. Часта гэта былі "дзеці" па 20-30 гадоў. У гэты час маці, стоячы на каленях, малілася. Затым старэйшыя прымаліся лупцаваць малодшых. Ніхто ні на кога не крыўдзіўся (ці так толькі напісана), бо лупцаванне ўспрымалася не толькі як бацькоўскае, але і як божае пакаранне. А вось што піша беларускі гісторык Мікола Улашчык пра сваю родную вёску Віцкоўшчыну, што на Койданаўшчыне (цяпер Дзяржынскі раён):

"Бацькі вучылі сваіх дзяцей папругаю, дубцом, а часам і бізуном". Сацыяльна-псіхалагічная служба нашага вучылішча правяла даследаванні па тэме: "Ці білі Вас бацькі". У апытанні прынялі удзел дзве групы – група юнакоў і група дзяўчат (узрост 16-17 гадоў). 90% юнакоў і 60% дзяўчат білі. 95% білі час ад часу, ці рэдка. 5% білі часта. 70% білі за дрэнныя паводзіны, 25% – за дрэнную вучобу, 5% – проста так. У асноўным, 60%, білі дзягай, але ж пападала і далонню, мятлой, шнурам і нават шлангам ад пральнай машыны!


Ці дапамагае лупцоўка? Фота Ірыны РАБУШКІ.

З іншых пакаранняў на першым месцы апынуўся "дамашні арышт". На другім – "фінансавы байкот". На трэцім – стаянне ў куце (як варыянты, на каленях, на гароху і нават солі!). 70% юнакоў і 40% дзяўчат будуць біць сваіх дзяцей. Так і хочацца сказаць, што жорсткасць параджае жорсткасць.

Вось урывак з аднаго адказу: "У дзяцінстве мяне бацька біў у прынцыпе моцна або ставіў на гарох. У мяне бацька садыст і біў адпаведна". Сучасная педагогіка выдзяляе такую якасць дзіцячага, асабліва падлеткавага характару, як упартасць, вытокам якой яшчэ не знайшлі тлумачэння. Такая якасць выклікае ў дарослых негатыўныя эмоцыі, якія, як правіла, прыводзяць да канфлікту і пакарання падлетка. Гэта ў сваю чаргу выклікае яшчэ большаю ўпартасць. Непаўналетні можа збегчы з дому, здзейсніць амаральны ці асацыяльны ўчынак. У выніку яго чакае яшчэ пакаранне. Атрымліваецца замкнёнае кола. Пастаянныя пакаранні прыводзяць да таго, што падлетак перастае адчуваць віну за здзейсненыя ўчынкі.

І напрыканцы ўрывак з таго ж адказу: "Сваіх дзяцей я біць не буду. Слова можа дапамагчы больш, чым рукапрыкладства". Недарэмна ў Бібліі напісана: "Не будзь пераможаны злом, але перамагай зло дабрынёй".


**Адкрыты ўрок вядзе Ігар КІЦІКАЎ, kitikoff@tut.by.**

■ ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР

# З людзьмі не бывае сумна

**МАЛАДЗЕЧНА. У кіёск «Саюздруку» Таццяна Янджэйчык прыйшла, можна сказаць, выпадкова. Сям'я пераехала з Маладзечна ў Радашкавічы, і жанчыне трэба было некуды працаўладкавацца. Але не прайшло і месяца, як зразумела, што знайшла работу па душы.**

"Я ведаю амаль што ўсіх людзей у мястэчку, — дзеліцца кіяскёр. – І не толькі таму, што многія з іх з'яўляюцца маімі пастаяннымі пакупнікамі. У Радашкавічах я нарадзілася і вырасла, закончыла школу, тут жыве мая маці". Сама ж Таццяна ездзіць на працу з Валодзькаў, дзе сям'я мае кватэру. "Зімой дабірацца цяжкавата, — расказвае жанчына, — ёсць праблемы з транспартам. А летам у нас – прыволле. Побач лес, недалёка рэчка, дзе мае мужчыны любяць збіраць грыбы і вудзіць рыбу".

Не супраць збегаць па чарніцы альбо душыстыя суніцы і сама Таццяна. Якая, як і кожная гаспадыня, стараецца, каб сям'я на зіму не засталася без варэння, кампотаў, кансерваваных грыбочкаў і агуркоў.

Рабочы дзень для яе праляпае, як адно імгненне. "Напэўна, таму,— разважае кіяскёр, — што ўвесь час сярод людзей. А з імі ніколі не бывае сумна".

**Марына СЛІЖ.**


**У Радашкавіцкім кіёску «Саюздруку» Таццяна Янджэйчык працуе шосты год.** Фота Марыны СЛІЖ.


**Святлана Мінеева з Радашкавічаў не шкадуе, што стала працаваць кіяскёрам.** Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

**Святлана Мінеева працуе ў кіёску, што месціцца ў цэнтры Радашкавічаў, нядаўна. Ранейшым месцам працы быў дзіцячы сад. Пасля нядаўняга нараджэння другога сына, Мікалая, якому ўжо 8 месяцаў, яна змяніла прафесію выхавальніка на кіяскёра.**

Святлана кажа, што ёй у кіёску больш падабаецца, бо і з людзьмі сустракаешся, і газеты цікавыя прагледзець можаш. Адно цяпер кепска – халаднавата і нават абагравальнік не заўсёды выратоўвае.

"Рэгіянальная газета" ў Радашкавічах ўваходзіць у лік найбольш папулярных выданняў. Купляюць яе не толькі местачкоўцы, але і жыхары наваколля, калі прыязджаюць у Радашкавічы на базар. Найбольш напружаны час у кіёску якраз у пятніцу, у дзень выхаду "Рэгіяналкі", а таксама ў суботу і нядзелю". За гэтыя дні і праварочваецца тут найбольш людзей.

Святлана і яе муж Юры, настаўнік мясцовай школы–інтэрната, выхоўваюць двух сыноў. Старэйшаму, Вадзіму, ўжо дзевяты год. Любіць газеты, асабліва калі там ёсць нешта да разгадвання.

**Мікола ГАЙДУК.**

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Калі я была ў шостай клясе, ачараваў мяне новы вучань з Клецкай гімназіі Слава Арэнь. Быў ён сынам настаўніка сваёй гімназіі й прыбыў у нашу пасьля яе ліквідацыі. Высокі, сінявокі хлопец ад першага пагляду заўладаў маім сэрцам. Помню добра той дзень, калі яго першы раз спаткала. Шпацыравала я ў часе паўзы са сваёй Галяй па доўгім калідоры, а ён зь нейкім хлопцам таксама па ім праходжваўся. Мінаючы сябе, глянуўшы на яго, здавалася мне, што я дзесь яго бачыла, і я аглянулася. Аглянуўся і ён таксама. І так пачалі мы на кожнай паўзе за сабой аглядацца. Быў ён тады ў сёмай клясе. З нецярплівасьцю пачала я чакаць суботы, спадзеючыся пазнаёміцца зь ім на вечарыне. І так сталася. Увесь вечар толькі зь ім танцавала й многа чаго пра яго даведалася. Пасьля разам сьпявалі ў хоры. Пачалі мы спатыкацца. Помню маю радасьць, якую прынёс яго першы ліст Калядамі. Вясною не маглі ўжо аднаго дня жыць, ня бачыўшыся. Калі ў траўні меў выехаць ён на тры дні дахаты, мы кожны дзень спатыкаліся й паўтаралі: „Тры дні, як можна жыць тры дні не бачучыся? Ці вытрымаем мы?.." Сьлёзы ў абоіх былі ў вачах, калі на гэтыя тры дні расставаліся. На жаль, не было гэта расстаньне на тры дні толькі, а на цэлае жыцьцё нашае. Паехаў Слава й больш не вярнуўся. Яго дома арыштавалі й вывезьлі ў Баранавіцкую турму.

Што я перажыла вясной, апісаць немагчыма! Плакала, плакала й сьвету Божага ня бачыла. Праз Славу й мяне хацелі з гімназіі выгнаць. Дайшло-б да гэтага, каб не выступіў у маёй абароне ксёндз Адам Станкевіч. Ён мяне абараніў. Усё-такі я зь Вільні выехаць мусела, не дачакаўшы канца школьнага года.

Будучы ў Валожыне, атрымала я з турмы ліст ад Славы. Магла й сама да яго напісаць. Восеньню пасьля паўгадовага заключэньня Славу выпусьцілі. Якая была для мяне радасьць! Ня мог аднак ён прыехаць у Вільню, трэба было яму кожны дзень у паліцыі мальдавацца. Пачалі мы з сабою часта перапісвацца. Тады я прыдумала, што ён, знаходзячыся на волі, мае другую дзяўчыну, й пачала іграць яму на нэрвах. Удавала, што мне безь яго весела й зусім аб ім ня думаю. Калядамі атрымала ад яго ліст разьвітальны. Пісаў: „Ад мяне доўга ня будзеш мець весткі, нічога кепскага ня думай, я пра цябе помніць буду й паміраць буду толькі з думкай аб табе..."

Больш ніякай весткі ад яго не атрымала. Напісаў толькі да мяне яго бацька, просячы паведаміць яго, калі б атрымала я вестку ад Славы.

Аказалася, ён перайшоў савецкую граніцу, а там саслалі яго ў Сібір, дзе памёр.

Большасьць вучняў нашай гімназіі паходзіла зь вёскі й была бедная. Некаторыя вучні былі кепска апранутыя, а тыя, якім не хапіла месца ў інтэрнаце, жылі дзесь далёка ад горада, наймаючы куток у якогась гаспадара, вучыліся пры газавай лямпе, галадалі.

Успомніць хачу тут пра сьвяткаваньне 25 Сакавіка — гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі. Дзень гэты быў для нас вялікім сьвятам. Перад абедам ішлі на малебен у касьцёл і царкву, а пасьля ў гімназію, дзе частавалі вучняў какавай і пончыкамі. Кожны з нас меў прышпіленую бел-чырвона-белую стужачку. Вечарам адбывалася ўрачыстая акадэмія, на якой прамаўляла многа асоб і былі чытаны тэлеграмы ад арганізацыяў розных народаў. У другой частцы акадэміі быў канцэрт. Трудна апісаць настрой, які перапаўняў тады сэрцы кожнага шчырага Беларуса.

Заўсёды было мне вельмі цяжка, калі прыбліжалася якое-небудзь гадавое сьвята й вучні маглі ехаць на тыдзень ці два дахаты. Усе тады вельмі цешыліся, бо ехалі да бацькоў, у сваю родную хату, а я адна хадзіла сумная. Мне не было да каго ехаць. Фактычна заўсёды я выяжджала да дзядзькоў, але ведала, што мяне там не чакаюць, што буду для іх лішняй. Езьдзіла я так і ў Будслаў да цёткі Гэлькі, дзе спатыкалася з брацікам Франкам, і ў Глыбокае да цёткі Анелі, і ў Шаркаўшчыну да дзядзькі Вінцуся, у якога пасьля сьмерці бацькоў была Гэльця, і ў Лунінец да дзядзькі Томы, дзе знаходзілася сястра Вэра. Вельмі цяжка было мне расставацца са сваімі сёстрамі й братамі. Франак жыў у Будславе, у дзядзькі Адольфа. Яго я вельмі любіла, хіба так, як кахае матка роднага сына. Прыяжджаючы ў Буду, увесь дзень была разам зь ім — ён прыходзіў да цёткі Гэлькі. Калі вечарам пайшоў дахаты, празь некалькі мінут бегла я за ім і, знайшоўшы яго сьпячага ў ложку, садзілася каля яго й доўга яшчэ на яго глядзела.

**Анеля КАТКОВІЧ.**

Працяг будзе.

# Лоск губляе свой глянец

**Лоск, адзін з населеных пунктаў Валожынскага раёна, размешчаны за 25 кіламетраў ад райцэнтра і 100 ад сталіцы. У "Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх" згадваецца пад назвай Лошаск. У 1574 годзе тут была заснаваная друкарня, якой кіраваў нейкі час Сымон Будны.**



Па цэнтральнай вуліцы – на ўласным транспарце.






Што такое цэнтральнае ацяпленне, у Лоску не ведаюць. Таму кожны гаспадар стараецца назапасіць на зіму дроў.

Я нарадзілася і вырасла ў суседняй з Лоскам вёсцы. Вялікай, прыгожай, але не такой, як мне здавалася ў дзяцінстве, велічнай. Нашы Гародзькі ніколі не былі горадам, і тут ніколі не жыла ў вялікім замку князёўна.

Пра ўсё гэта доўгімі зімовымі вечарамі мне распавядала бабуля. "Хто ні йшоў, ні ехаў у гэты горад, — з нейкай таямнічасцю на твары даводзіла яна, — павінен быў везці альбо несці з сабой камень, які ішоў на ўзвядзенне палаца. Розныя яны былі па форме, па колеру. Але як толькі апошні быў пакладзены на сцяну, грымнуў гром, лінуў дождж і сцены замка зазіхацелі так, што людзі ад яго свету пазаплюшчвалі вочы. Адсюль і назва пайшла. Лоск – значыць блішчасты".

Трыццаць гадоў мінула з таго часу. Пачутую некалі легенду я расказвала ўжо сваім дзецям і абавязкова вазіла іх на Замкавую гару. Паказаць месца, дзе калісьці стаяў славуты Лоскі замак. Паводле энцыклапедычных звестак, ён меў драўляныя ўмацаванні ў выглядзе зрубных сцен-гародняў і баявых вежаў, якія сталі на кальцавым земляным вале. Тут было 10 трох'ярусных вежаў і двух'ярусная вежа-брама, што зачынялася варотамі і кратай-герсай.

На 1-м паверсе вакол прыхожай было 9 жылых пакояў з узорыстымі кафлянымі грубкамі і 2 каморы, на 2-м, абкружаным адкрытай галерэяй, вакол гасцінай – 2 святліцы, жылы пакой, 3 каморы. Другі палац меў 42 розныя памяшканні. Недалёка ад вежы-брамы стаяла кухня. За сценамі замка знаходзіліся лазня і бровар.

Замак не захаваўся, аб ім нагадвае хіба што высокі насып ды памятны знак. Ды і сам Лоск з гадамі стаў губляць свой глянец. Няма ранейшай славы ў калгаса, які лічыўся адной з лепшых гаспадарак у раёне, даўно не працуе дзіцячы садок, пад пагрозай закрыцця прыгожая, двухпавярховая школа.

Некалі тут шмат і актыўна будавалі. Хто б з маладых спецыялістаў не прыязджаў у тагачасны калгас імя XXY з'езда КПСС, абавязкова атрымліваў кватэру. Добраўпарадкаваную, прасторную, з цэнтральным ацяпленнем. Было тут куды пайсці ў вольны час – у вёсцы ўзвялі бібліятэку, Дом культуры, куды прыязджалі сталічныя артысты і дзе праходзілі сходы. Самымі ганаровымі гасцямі на іх былі звеннявая па вырошчванні льну Лізавета Валадкевіч, што стала першым у раёне Героем Сацыялістычнай Працы. Галоўны аграном гаспадаркі Марыя Гіль, сціплая, старанная жанчына, узнагароджаная ордэнамі Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга. Даярка-чатырохтысячніца, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Галіна Сліж, былая звеннявая па вырошчванні льну Аляксандра Паўлюкевіч.

Цяпер усе яны на пенсіі.



Помнік воінам-землякам, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, размешчаны ў самым цэнтры вёскі.



"Вада з бабулінага калодзежа такая смачная!", — сцвярджае Марына Гарашкевіч, што прыехала ў вёску Лоск на канікулы.

Жывуць ціха, спакойна, як і вёска, якая абуджаецца толькі летам, у час летніх канікулаў, калі да бабуль у госці прыязджаюць унукі. На малако ды свежае паветра. А яшчэ ў выхадныя, калі сюды, дапамагчы бацькам па-гаспадарцы, з'язджаюцца іх мамы і таты. Хоць і аселі ў гарадах, памяняўшы вясковае жыццё да гарадское, не адмаўляюцца ні ад кавалка сала, ні ад жоўтага дамашняга яечка, ні ад слоіка малака. Бяда толькі, што з кожным годам у статку становіцца ўсё менш і менш кароў. Старэе вёска, слабее. А ў немачы сваёй прызнацца баіцца. Не знойдзеш, бадай, двара, дзе не рохкалі б свінні, не сакаталі куры. Ды і самі жыхары, бы тыя мурашкі, у працы круглы год. Асабліва дастаецца летам, калі просіць рук і агарод, і поле, дзе падымаецца бульба.

Даўно заўважыла, што людзі сталага веку ўсё больш і больш цягнуцца да зямлі. У Лоску амаль кожны вясковец мае яе гектар, а часам і больш. Стогнуць, пацеюць, гнуць спіну, а не адмаўляюцца. Кожнаму хочацца быць гаспадаром.

Больш таго, сталі сеяць жыта, пшаніцу. Не заўсёды мясцовая гаспадарка можа выдзеліць камбайн, каб ураджай зжаць і змалаціць. Большасць вясковых жанок, навастрыўшы сярпы, жне ўручную. А пасля малоцяць. Той, каму пашанцуе, камбайнам, асобныя – самаробнай малатарняй, якую сканструяваў вясковы ўмелец Іван Сліж. Убачыўшы гэты агрэгат у двары бабулі, мая пляменніца ні то жартам, ні то ўсур'ёз спытала: "Тут што, кіно здымаюць?". Не бачыла яна яшчэ, як яе бабуля з дзядулем гэта зерне веялі.

Летам вёска патанае ў садах. Летась, праўда, на старых, разлапістых дрэвах, равесніках сваіх гаспадароў, не было ні яблычка. Сваю справу зрабілі майскія маразы. Не было і вішань, якіх ва ўраджайныя гады людзі не ведаюць дзе дзяваць. Выручае нарыхтоўшык Пётр Лукашэвіч, які садавіну прымае у сваім двары. Адны мяняюць вішні на грошы, іншыя – на цукар, які ідзе на варэнне і кампоты. Маўляў, за зіму пераесца ўсё. Не ў горадзе ж, не купіш.

Магазін у вёсцы ёсць. І тавары туды прывозяць. Выбар іх, праўда, невялікі, ды гэта мала засмучае. Вясковыя жанкі, навучыўшыся эканоміць, ездзяць у чацвер за прадуктамі на валожынскі рынак альбо ў нядзелю – на маладзечанскі, куды па выхадных днях ходзіць рэйсавы аўтобус. Вязуць дадому не толькі макарону, але і рыбу, алей, хлеб. У вёсцы кажуць, што маладзечанскі нашмат смачнейшы за валожынскі. Тое-сёе можна купіць і ў мясцовым аддзяленні сувязі, якім загадвае Ніна Анкуда, альбо ў буфеце мясцовай школы, дзе працуе поварам Валянціна Лапцэвіч.

"Пусцее вёска, — сумным поглядам абводзячы вуліцу, заўважыла Галіна Сліж. – У цэнтры калгаса жывём, а бы на якім востраве. Вось побач дом стаіць, прыгожы, цагляны, на чатыры кватэры. Восенню яго пакінула апошняя сям'я. Людзі пераехалі ў Гародзькі, бліжэй да цывілізацыі. І той вунь дом пусты, і гэты зачынены. І шматпавярхоўка ля школы таксама пустуе. Што будзе праз год, два і падумаць страшна. Я ўжо і не памятаю, калі спраўлялі ў нас радзіны. Усё больш пахаванні".

Не сустрэла, пакуль рабіла здымкі для газеты, нікога на вуліцы і я. Ганна Бартош, бабулька, якая прыбірае ў канторы, сказала, што адна яе суседка пайшла ў царкву, другая – паехала да дзяцей. Сама ж фатаграфавацца не мела часу. Дачка з зяцем прыехалі, тэлевізар новы прывезлі. А ён, брадзяга, не працуе, ад антэны адарваўся правадок. І пабегла да суседзяў па нейкі загадкавы "прыпой"...

**Марына СЛІЖ.**



Георгіеўская царква – помнік архітэктуры.



Амаль у кожным вясковым двары ёсць свой ахоўнік – сабака.

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Першы маладзечанскі аўтобус

**У сакавіку 1947 года ў Маладзечне пайшоў першы гарадскі аўтобус, на якім пачалі працаваць вадзіцелем Р.Я.Чырвонцаў і кандуктарам З.Ф.Ярмальчук. Маршрут быў ад плошчы Свабоды да Гелянова. У аўтобус на 16 месцаў набівалася чалавек 30. Каб не адламаліся дзверы, аўтобус на плошчы пад'язджаў і ўпіраўся адкрытымі дзвярыма ў слуп.**



Першы маладзечанскі аўтобус – кандуктар Зінаіда Ярмальчук, Люда і Леў Чырвонцавы і іх бацька вадзіцель Раман Чырвонцаў. Канец 40-х гадоў.

Фота з альбома Льва ЧЫРВОНЦАВА.

Мне ў дзяцінстве падабалася ісці ўздоўж дарогі і любавацца машынамі. Тады іх было вельмі мала. Дзіцячыя думкі несліся далёка-далёка, дзе, напэўна, жылося лягчэй і весялей, чым у нас.

Кожны дзень па радыё так прыгожа расказвалася пра камсамольскія будоўлі па ўсім Саюзе і амаль нічога цікавага пра родны кут. Толькі адслужыўшы ў арміі на Курылах, на краі Зямлі, я зразумеў, што лепшага кутка, чым Маладзечна і Вілейка, для мяне не будзе. І такія прыгожыя дарогі, чым у нас на Беларусі, рэдка дзе можна сустрэць. Я маю на ўвазу не гладзь асфальту, а краявіды, што адкрываюцца за кожным паваротам дарогі.

Цяпер цяжка ўявіць, што сто гадоў назад у нас яшчэ не было аўтамабіляў. Знакаміты Форд толькі пачынаў вытворчасць аўтамабіляў у ЗША. У пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя марку "Форд" узялі за асноўную для вытворчасці ў СССР. Знакамітыя "паўтарачкі" і "эмкі" тых часоў і ёсць "Форды", у тым ліку і аўтобус, які вы бачыце на здымку. Так як іх выпускаў Горкаўскі аўтамабільны завод, яны і сталі потым называцца ГАЗ-А, ГАЗ-АА і г.д.

Вялікім прыхільнікам аўтамабіляў быў цар Мікалай II. У першую сусветную вайну восенню 1915 года ён быў на аглядзе Расійскіх войскаў, якія стаялі паміж Маладзечнам і Смаргонню.

**Дарэчы, сям'я царскага шафёра пасля рэвалюцыі з Петраграда перабралася ў Вілейку. На жаль, у той час аб гэтым хваліцца было не прынята, а цяпер ці засталіся сведкі? Яго дачка была адной з першых, хто паехаў падымаць цалінныя землі па камсамольскай пуцёўцы. Там яна і загінула.**

Другая сусветная вайна пакінула цяжкі след у Маладзечне. З 730 жылых дамоў уцалелі толькі 181. Засталося 3,5 тысячы жыхароў. А тут яшчэ абласны цэнтр з Вілейкі перавялі ў Маладзечна. Транспарту амаль ніякага. Нават "хуткая дапамога" да верасня 1946 года працавала пешшу.

**Хутка вяліся аднаўленчыя работы, ішло будаўніцтва. Паўстала пытанне аб арганізацыі пасажырскага транспарту. І вось у сакавіку 1947 года пайшоў першы гарадскі аўтобус, на якім пачалі працаваць вадзіцелем Раман Чырвонцаў і кандуктарам Зінаіда Ярмальчук. Маршрут быў ад плошчы Свабоды да Гелянова. У аўтобус на 16 месцаў набівалася чалавек 30. Каб не адламаліся дзверы, аўтобус на плошчы пад'язджаў і ўпіраўся адкрытымі дзвярыма ў слуп. Ну, а потым, колькі ўціснецца, столькі і паедзе. Таму аўтобус часта ламаўся, а пасажыры, як і цяпер, былі незадаволеныя.**

Паколькі аўтобус на той час быў адзін, даводзілася выконваць і іншыя спецрэйсы, часцей за ўсё позна вечарам. Пажылыя людзі памятаюць, што ў тыя далёкія гады ў кіно хадзілі калектыўна, як у тэатр. Ну, напрыклад, калі паказвалі фільм "Паданне аб зямлі сібірскай" у кінатэатры "Партызан", работнікі аўтатранспартнай канторы (АТК) паехалі ў кіно аўтобусам.

Было і такое. Дачка дырэктара АТК была, як кажуць, на выданні. Нейкі ўхажор запрасіў яе на танцы. Дырэктар бярэ аўтобус і вязе яе ў клуб.

Да канца 1947 года ў арганізацыях ужо было каля 80 спраўных аўтамабіляў. Шмат якія абласныя арганізацыі паступова "абрасталі" легкавушкамі розных марак.

Ішоў час. Хуткімі тэмпамі будаваліся жылыя дамы, прамысловыя прадпрыемствы. У Маладзечна ехалі спецыялісты з розных гарадоў Саюза. Насельніцтва хутка павялічвалася. Трэба было вырашаць і многія транспартныя праблемы. З'явілася новая дарога з Мінска ў Вільню, цяпер Вялікі Гасцінец. У пачатку 1970-х пабудавалі пуцеправод па вуліцы Віленскай. У горадзе ўжо працавала каля 30 аўтобусаў, а праблемы нарасталі. Калі сталі паступаць вялікія "Ікарусы", даехаць на працу стала лягчэй.

**Была прапанова арганізаваць у Маладзечне тралейбусны рух. Але затраты маглі акупіцца толькі ў тым выпадку, калі б у горадзе пражывала не менш за 200 тысяч жыхароў. Таму ад гэтай задумы адмовіліся.**

Апошнія 10 год насельніцтва ў горадзе практычна не павялічваецца. Але стыль жыцця мяняецца, узнікаюць новыя праблемы. Хоць з вялікімі цяжкасцямі, але пабудаваны новы чыгуначны прыпынак "Фестывальны", праз які за суткі адпраўляецца 600 пасажыраў. Многім з іх ужо не патрэбны аўтобус, каб даехаць да чыгуначнага вакзала. Але трэба мяняць некаторыя маршруты, каб як мага хутчэй дабрацца да "Фестывальнага". З'явіўся ў горадзе і новы мікрараён – шосты.

У горадзе 15 гарадскіх маршрутаў, на якіх працуе 51 аўтобус, у прыгарадзе 30 аўтобусаў і 6 міжгародніх. Многія аўтобусы старыя. Кіраўніцтва аўтапарка лічыць, што даход ад перавозак пасажыраў мізэрны, а гэта не дазваляе ім не толькі купляць новыя аўтобусы, але і якасна рамантаваць старыя. Кошт білета ў гарадскіх аўтобусах складае 220 рублёў, у прыгарадных — 39,6-44,9 рубля за 1 км, а міжгародніх – 51,5-58,4 рубля за 1 км праезду ў залежнасці ад аўтобуса. Гэта ў 10 разоў менш, чым, напрыклад, у Германіі. Ну, я не кажу пра нашы заробкі. Але ж каб купіць добры аўтобус, трэба мець тыя ж еўра, што і ў Германіі.

Акрамя таго, даўгі прадпрыемстваў і калгасаў, якія бралі аўтобусы для перавозкі людзей на сельгасработы, складаюць амаль 180 мільёнаў рублёў. А мільёны рублёў дарэмнай працы на сельгасработах. І калі ўжо знікне гэтая "чорная дзірка", куды трапляюць нашы грошы?

**Пасажырскі аўтапарк не можа эфектыўна вырашыць усе праблемы па перавозцы пасажыраў, і таму іх вырашаюць індывідуальныя прадпрымальнікі на легкавых і маршрутных таксі. Цяпер працуе 9 маршрутных таксі. Пакуль што гэта новы від паслуг, і прадпрымальнікам даводзіцца адбівацца ад розных пабораў. Але здаровая канкурэнцыя прабівае сабе дарогу, колькі б палак не піхалі ў колы сучасныя бюракраты.**

Жыццё мяняецца. Сёння ў Маладзечне і раёне амаль 31 тысяча ўласных аўтамабіляў. Шмат хто ездзіць на работу, на рынак, у краму, у дзіцячы сад на сваёй машыне. Тут узнікаюць новыя праблемы: дзе іх ставіць днём і ноччу? Гаражы маюць не ўсе і часта далёка ад дома. У ЗША яшчэ паўстагоддзя таму будавалі высотныя дамы з гаражамі. І носам ніхто не круціў, бо гэта зручна і экалагічна чыста. А ў нас клетухі, хто як злепіць. Мала стаянак каля прадпрыемстваў, магазінаў, устаноў. Сумна, што многія кіраўнікі пакуль не бачаць тут праблемы. Машыны стаяць на праезнай частцы дарог, што перашкаджае транспарту, тым больш зімой.

Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці, горад прыгажэе. Хочацца верыць, што наш гараджанін усё менш будзе псаваць нервы і траціць часу, каб дабрацца да любога кутка і ў горадзе, і ў Беларусі.

**Леў ЧЫРВОНЦАЎ.**

■ КАЛЯНДАР

**27 лютага. 270 год таму нарадзіўся Радзівіл Караль Станіслаў** (мянушка Пане Каханку; 1734, Нясвіж – 1790), дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага.

**4 сакавіка. 130 гадоў назад, 4 сакавіка 1874 года, у вёсцы Вётхава на Смаргоншчыне нарадзіўся Павел Южык – мастак і педагог.** Закончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам на Вілейшчыне. Вучыўся ў Віленскай рысавальнай школе І. Трутнева. З 1915 года працаваў у канцылярыі Віленскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Пасля 1917 года жыў і працаваў на Украіне, Паволжы, у Пензе. Вярнуўся на Беларусь. Выкладаў маляванне ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1939–44 працаваў выкладчыкам малявання ў Залессі. Аўтар вялікай серыі карцін "Беларускі краявід", партрэтаў сваіх землякоў.

# Скарбніца нацыянальнай культуры

**Сярод іншых архіўных скарбніц вылучаецца і Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ). Хто хоча быць дасведчаным у лёсах славутых ураджэнцаў Віленшчыны, якія засведчылі сябе ў айчыннай культуры, варта звярнуцца ў БДАМЛіМ. Размешчаны ён, лічы, у цэнтры Мінска, паблізу станцыі метро "Няміга".**

Паспрабуем жа зрабіць невялікую экскурсію ў архіў-музей. Значную частку збораў складаюць асабістыя фонды. Гэта значыць, што асобна вылучаны матэрыялы, якія прысвечаны таму альбо іншаму чалавеку. Магчыма, адразу і двум ці тром асобам.

Дзе, у якіх фондах шукаць матэрыялы пра віленцаў? Асабісты фонд (пад нумарам 263) прысвечаны паэтэсе **Канстанцыі Буйло** (1893-1986), вытокі лёсу якой – на Ашмяншчыне. У зборы – 174 адзінкі захоўвання. Сярод іншых матэрыялаў – лісты Канстанцыі Антонаўны да У.Ф.Луцэвіч, М.Танка, І.Шамякіна, іншая эпісталярыя. Захоўваюцца ў архівах і фотаздымкі К.Буйло, пачынаючы з 1910-х гадоў

**Зоська Верас** (1892-1991), якая большую частку свайго жыцця правяла ў Вільні, самым цесным чынам звязана з нашым краем, дзеячамі культуры Віленшчыны, Маладзечаншчыны. Зазірнуўшы ў фонд пісьменніцы пад нумарам 318, мы знойдзем і лісты К.Буйло, М.Забэйды-Суміцкага, А.Мальдзіса, П.Мядзёлкі, Б.Тарашкевіча. Кнігі па гэтай эпісталярыі можна пісаць!..

З Маладзечаншчынай звязаны і лёс вялікага спевака **Міхася Забэйды-Суміцкага** (1900-1981). У яго фондзе 293 — 35 лістоў толькі Максіма Танка. У свой час імя Міхася Забэйды-Суміцкага не было ўключана нават у "Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва". І Максім Танк ліставаўся са спеваком не ў лепшыя для нацыянальнай культуры часы – у 1962-1975 гады.

25 адзінак захоўвання – у фондзе драматурга **Івана Козела** (1928-1970), які нарадзіўся ў вёсцы Канчаны Маладзечанскага раёна. Знаходзяцца там і рукапісы п'ес літаратара-земляка. Адзін з твораў – "Канчане – суседзі мае" – пра родную вёску, землякоў.

У фондзе 182 – матэрыялы пра ўраджэнца Смаргоні паэта **Майсея Кульбака** (1896-1940). Матэрыялаў, праўда, няшмат. Хаця Майсей Кульбак – яркая, шматгранная асоба ў яўрэйскай літаратуры Беларусі.

Паэт **Максім Танк** (1912-1995) прадстаўлены фондам 25 (амаль 1000 адзінак захоўвання). Тут і сцэнарыі тэлеперадач, фільмаў па матывах лірычных твораў паэта пра Нарач, перапіска М.Танка з бацькамі, фотаздымкі літаратара з роднымі, іншыя досыць цікавыя матэрыялы.

У БДАМЛіМ асобны фонд (282) прысвечаны і празаіку **Аркадзю Чарнышэвічу** (1912-1967), які ў 1950-1957 гадах працаваў у школах Мядзельскага раёна. 72 адзінкі захоўвання – у фондзе 314, які прысвечаны драматургу, паэту, артысту Яўгену Шабану (1936-1982), нарадзіўся ён у мядзельскім Калодзіне.

Другая частка збораў БДАМЛіМ – фонды дзяржаўных устаноў і творчых арганізацый. У гэтых фондах – лёсы ўраджэнцаў Віленшчыны, іх месца ў гісторыі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ ІНВАСПОРТ

# Зімовы этап трэніровак

**МАЛАДЗЕЧНА. Да Паралімпійскіх гульняў, што пройдуць у грэчаскіх Афінах 17-28 верасня, рыхтуецца трое хворых на зрок прадстаўнікоў горада.**

### Ігар Фартунаў

Ігар – уладальнік двух сярэбраных і аднаго бронзавага медалёў Атланты-1996, яму зараз 30 гадоў. На чэмпіянаце краіны па лёгкай атлетыцы ў закрытым памяшканні 20 лютага выйграў два бегавыя старты: 60 м і 200 м. У скачковых дысцыплінах не ўдзельнічаў, бо непакоіць траўма пяты.

Бліжэйшыя планы падрыхтоўкі лёгкаатлетаў наступныя: збор на Кіпры ў красавіку, турнір у Літве ў маі, чэмпіянат краіны ў чэрвені.

Папярэдне вядома праграма спаборніцтваў у Афінах. Фартунаў збіраецца выступіць у скачках у даўжыню і ў пяціборʼі (скачкі ў даўжыню, кіданне капʼя, бег 100 м, кіданне дыску, бег 1500 м). На жаль, арганізатары не набралі патрэбнай колькасці ўдзельнікаў для скачкоў у вышыню. Калі расклад стартаў па часе будзе спрыяльным, то, магчыма, Ігар прабяжыць 100 м і 200 м. Таксама не выключана, што беларусы выступяць у эстафеце 4 па 100 м.

### Васіль Шапцібой



**Васіль Шапцібой цяпер рыхтуецца да Паралімпійскіх гульняў. Паміж зборамі ён жыве ў Маладзечне і штодня трэніруецца ў трэнажорнай зале.** Фота Святланы ЦІШКО.

24-гадовы Васіль заваяваў лёгкаатлетычную бронзу ў Сіднэі-2000, няблага выступіў у лыжным спорце на мінулых зімовых гульнях. Цяпер у сваіх летніх занятках пераключыўся на веласпорт. Зборная Беларусі з нашым земляком у складзе праводзіць зборы на Украіне: у лютым былі на трэку ў Львове, цяпер адправіліся займацца на шашы ў Ялце.

Спецыфіка веласіпеднага інваспорту ў тым, што спаборніцтвы праходзяць на велатандэмах, гэта значыць, у абавязковым парадку прысутнічае здаровы лідэр. Шапцібой трэніруецца разам з гродзенцам **Аляксандрам Данілікам.** Плануюцца выступленні ў гонцы праследавання на 4 км на трэку і ў гонках на шашы (групавы і раздзельны старт).

Дарэчы, у перапынку паміж зборамі Васіль выступіў на чэмпіянаце краіны па лыжным спорце і заваяваў два першыя месцы на дыстанцыях 5 км і 10 км свабодным стылем.

### Віктар Жукоўскі

Цалкам невідушчы Віктар мае "за душою" два бронзавыя медалі Атланты-1996, столькі ж узнагарод Сіднэя-2000, удзел у двух зімовых Паралімпіядах. Да сёлетніх гульняў рыхтуе скачок у даўжыню і трайны скачок, можа прабегчы ў эстафеце. У свае 33 гады вырашыў не фарсіраваць падрыхтоўку, таму прапускае зімовы сезон.

### Са школы-інтэрната

У склад зборнай веласіпедыстаў уваходзяць яшчэ двое выхаванцаў маладзечанскай школы-інтэрната. Яны былі іншагароднімі і па заканчэнні вучобы вярнуліся жыць дадому. Гэта **Ірына Фядотава і Валерый Яўсеенка.**

Акрамя таго, у якасці лідэра рыхтуецца **Вольга Міхайлава**, якая займалася веласпортам у гарадской ДЮСШ, а зараз вучыцца ў Мінску ў БНТУ.

Дарэчы, Фядотава з Данілікам на гульнях у Сіднэі выйгралі два золаты. Сёлета правілы памяняліся – змешаных тандэмаў не будзе.

Не забудзем лёгкаатлетаў Вольгу Зіневіч, Руслана Сівіцкага, Аляксандра Бацяна, Мікалая Семяняку, пра іх поспехі на леташнім чэмпіянаце Еўропы "РГ" паведамляла. Яны таксама іншагароднія выпускнікі школы-інтэрната і могуць пасяхова выступіць у Афінах.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

# Зборныя рыхтуюцца да выхаду

## Пакуль на Беларусі ляжыць снег, нашы вядучыя футбалісты гуляюць і трэніруюцца ў цёплых краінах

### Каманда Байдачнага

Турнір васьмі нацыянальных зборных па сістэме плэй-оф прайшоў на Кіпры. Згодна з афіцыйным календаром ФІФА, каманды-ўдзельніцы змаглі выставіць аптымальныя склады толькі ў адзін дзень – 18-га, пасля чаго вядучыя гульцы разʼехаліся па клубах.

Пасля значнага перапынку ў нашу зборную быў выкліканы Карыцька. Галоўны трэнер Анатоль Байдачны ведае яго па сумеснай працы ў растоўскім "Растсельмашы" ў 2002 годзе. Па выніках турніру настаўнік застаўся задаволены дзеяннямі ўраджэнца Маладзечна – калі ўзнікнуць праблемы ў гульцоў асноўнага складу, ён зможа "закрыць" пазіцыю правага паўабаронцы.

18.02. Чвэрцьфінал. Беларусь – Кіпр 2:0.

Карыцька не гуляў.

19.02. Паўфінал. Беларусь – Румынія 0:2.

Карыцька правёў увесь матч.

21.02. Матч за 3 месца. Беларусь – Латвія 4:1.

Карыцька правёў увесь матч.

Матч за 1 месца выйграла Румынія.

### Каманда Пунтуса

Турнір па кругавой сістэме з удзелам другіх складаў нацыянальных зборных прайшоў на Мальце.

Беларусь была прадстаўлена алімпійскай зборнай, гэта значыць, маладзёжнай, якая ўзмоцненая трыма футбалістамі старэйшага ўзросту. Іх са свайго клуба БАТЭ ўзяў галоўны трэнер Юрый Пунтус.

14.02. Беларусь – Эстонія 1:2.

Бяганскі быў заменены на 68-й хвіліне пры ліку 0:2. Попель быў заменены на 46-й хвіліне пры ліку 0:2.

16.02. Беларусь – Малдова 1:0.

Бяганскі выйшаў на замену на 71-й хвіліне пры ліку 1:0. Попель не гуляў.

18.02. Беларусь – Мальта 4:0.

Бяганскі выйшаў на замену на 46-й хвіліне пры ліку 2:0 і забіў трэці гол у матчы. Попель гуляў увесь матч і аддаў галявы пас пры апошнім узяцці варот.

1. Беларусь ........6
2. Эстонія ........6
3. Мальта ........4
4. Малдова ........1

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ГАРАДКІ

# Старт міжнароднага сезона

**Першы этап розыгрышу Кубка Еўропы прайшоў у закрытым памяшканні ў расійскім Ніжнім Ноўгарадзе 13-18 лютага і быў прысвечаны памяці чэмпіёна СССР Віктара Рабцава. З Расіі, Беларусі і Украіны сабраліся 82 спартсмены. Пераможцы паказалі высокія вынікі.**

З Беларусі ездзілі прадстаўнікі каманды Мінскай вобласці, складзенай з маладзечанцаў, і каманды шклозавода "Нёман" з Бярозаўкі. Спонсарамі нашых землякоў выступілі абласное ўпраўленне ФКСіТ, гарадскі аддзел ФКСіТ, прадпрыемствы МЭС і "Маладзечнамэбля".

Тройку прызёраў склалі расіяне **Духанін** (Краснадарскі край) – 110 біт, **Песцераў** ("Уралэлектрамедзь", Верхняя Пышма) – 111, **Мярзянаў** ("Тарпеда", Ніжні Ноўгарад) – 114.

У лік тых, хто па выніках першых двух дзён атрымаў права завяршаць барацьбу, увайшлі толькі пяць беларусаў і тры украінцы. Лепшыя нашы суайчыннікі – **Сушко** (12 месца, 119 біт) і **Даніла**ў (16, 121) з каманды Мінскай вобласці.

Арганізатары розыгрышу Кубка Еўропы вырашылі сістэматызаваць агульны залік камандай барацьбы, таму паставілі ўсіх патэнцыяльных удзельнікаў перад неабходнасцю заплаціць узнос 100 долараў і прыняць удзел ва ўсіх пяці этапах. Умовы выканалі восем калектываў: пяць расійскіх, два беларускія, адзін украінскі.

Яны былі разбіты на дзве групы. Адтуль па дзве лепшыя каманды выходзілі ў паўфінал, а астатнія, сярод якіх аказаліся абодва беларускія калектывы, завяршылі турнір, умоўна падзяліўшы 5-8 месцы. Тройку прызёраў склалі "Уралэлектрамедзь", Масква і Краснадарскі край.

Галоўны трэнер нашай зборнай **Аляксандр Кулак** звязвае няўдалыя вынікі падапечных з транспартнымі праблемамі – пакуль ехалі на поездзе, палова складу захварэла.

Тым большую важнасць набывае для нашых спартсменаў наступны этап Кубка – турнір памяці ахвяраў Чарнобыльскай трагедыі, які адбудзецца 22-27 красавіка.

Самым важным спаборніцтвам года стане II чэмпіянат свету ў Кіеве 15-22 чэрвеня. Там мяркуецца правесці турніры па трох разнавіднасцях гарадкоў. Акрамя традыцыйных, што развіваліся ў СССР, яшчэ з выкарыстаннем палімерных біт, як любяць у Германіі, і з выкарыстаннем пясчанага пакрыцця, як спрадвеку гуляюць у Фінляндыі.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Перамога трэнераў

**МАЛАДЗЕЧНА. Завяршылася першынство горада па міні-футболе на снежным пакрыцці. Прызавыя месцы разыгралі 9 каманд.**

Лепшымі сталі трэнеры ДЮСШ-2, далей размясціліся "Пуцеец" і юнакі 1987 г.н.

Педагогі спартыўнай школы ў вырашальнай сустрэчы ўзялі верх 1:0 над прадстаўнікамі дыстанцыі пуцi.

Матчы праходзілі на базе ДЮСШ-2.

У складах удзельнікаў вылучаліся **Вячаслаў Ваўчок** (Пуцеец), **Дзмітрый Вышынскі** (Камунальнік), **Віктар Дзмітрачкоў** (Трэнеры ДЮСШ-2), **Руслан Рагуновіч** (Лакаматыў), **Аляксандр Русак** (Энергетык), **Алег Сіткові**ч (Кірмаш), **Андрэй Троцкі** (Аўта), **Дзмітрый Шафаловіч** (Крышталны мяч-1987), **Яўген Ясюкевіч** (Арці).

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

## Табло

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**15.02. Дзекірш (Люксембург). Турнір "Еўракрос-2004".**

Ездзілі пяцёра маладзечанцаў. Другое месца заняў **Вашынка** (1987-88 г.н.) на дыстанцыі 4800 м. Трэцяе месца заняў **Мучынскі** (1985-86) на дыстанцыі 6150 м.

**19-20.02. Мінск. Чэмпіянат краіны сярод юніёраў (1985-86 г.н.).**

Першае месца заняў Мучынскі на дыстанцыі 2 км з перашкодамі. Ён амаль уклаўся ў час, патрэбны для таго, каб выканаць нарматыў кандыдата ў майстры спорту.

На подступах да тройкі прызёраў фінішавалі маладзечанцы **Куцкевіч** (2 км з перашкодамі), **Гіль** (3 км) і смаргонцы **Радчук** (60 м і 200 м), **Граматоўскі** (800 м).

**22.02. Маладзечна. Чэмпіянат вобласці па мнагаборствах.**

Першыя месцы занялі **Анастасія Міхалёнак** (1991-92 г.н.), **Сяргей Гарадзецкі** (1991-92), **Дзмітрый Жыжла** (1989-90), **Марыя Крук** (1987-88).

■ БОКС

**АСТРАВЕЦ. На абласную спартакіяду школьнікаў у Масты 20-22 лютага ездзілі васьмёра выхаванцаў трэнера Аляксея Маргужа з мясцовай ДЮСШ.**

Першыя месцы занялі **Уладзімір Мацкела** (1988-89 г.н., вага да 60 кг), **Яўген Герасім** (1990, 50 кг), **Сяргей Лобан** (1990, 46 кг).

■ ДЗЮДО

**МАЛАДЗЕЧНА. На міжнародным турніры "Белая зіма" ў польскім Аполе сабраліся шаснаццаць каманд юнакоў 1991-92 г.н.**

Выхаванцы трэнера Вячаслава Дзеравянкі выязджалі дзякуючы падтрымцы фірмы "Дэльта". Першыя месцы занялі **Піліп Кавалевіч** (34 кг, вучыцца ў гімназіі №10), **Ян Панарын** (38 кг, гімназія №6), **Віталь Пачкоўскі** (42 кг, СШ№11).

■ ІНВАСПОРТ

**МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат краіны па міні-футболе сярод гульцоў, якія слаба бачаць, прайшоў у Мінску.**

Каманда "Энва" пад кіраўніцтвам Аляксея Філіпава і Уладзіміра Русага заняла трэцяе месца з шасці ўдзельнікаў пасля сталічнага "Святлапрыбора" БелТІЗ і пінскага "Элкіса".

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ КАРАТЭ

**МАЛАДЗЕЧНА. Першынство Міжнароднай лігі традыцыйных баявых мастацтваў па традыцыйным каратэ, прысвечанае Дню абаронцаў Айчыны, прайшло ў Мінску 22 лютага.**

Маладзечанцы ўзялі 6 прызавых месцаў у розных узроставых групах. **Яўген Вяль** з СШ №9 стаў першым, **Дзмітрый Яблонскі** з СШ №14 – другім. **Андрэй Жыхар** з СШ №11, **Мікалай Баслык, Антон Садоўскі, Аляксандр Шкадун** з СШ №9 занялі трэція месцы.

Іх трэнеры Сяргей Харытон і Анатоль Казлоў атрымалі граматы за падтрымку і развіццё традыцыйнага каратэ.

Святлана ЦІШКО.

■ АНОНС

**28-29.02. Маладзечна. Манеж. Турнір гарадоў Беларусі па лёгкай атлетыцы.**

У суботу старты ў другой палове дня, у нядзелю – з раніцы.

# ВІНШАВАНКІ

**Таццяна Уладзіміраўна Шыбека!**

Ад усёй душы віншуем цябе з юбілеем!
Жадаем шчасця, бадзёрасці, аптымізму,
каб век не ведаць, дзе што баліць, і прыпяваючы 100 год пражыць.
Юбилеи бывают нечасто,
Юбилей – словно в небе звезда.
Мы хотим пожелать только счастья,
Счастья долгого, навсегда.
Не знай тревог, живи счастливо,
Чтоб говорили все всегда:
«Как эта женщина красива,
Как бесконечно молода!»

*З любоўю сем'і Драгуноў, Маталыгаў, Смолікаў.*

Маладзечанскі клуб турыстаў "Пілігрым" віншуе **Івана Бялкова** з днём нараджэння. Жадае моцнага здароўя, поспехаў у вучобе і новых цікавых паходаў.

**Ганначку Масальскую** віншую з днём Анёла. Здароўя, поспехаў ва ўсім. *Суседка Маша.*

**Ганначку Казюль** віншую з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, поспехаў і ўдачы ва ўсім. *Сястра Маша.*

**Кацю Грыневіч** віншую з днём Анёла! Жыві сто год без бед. Здароўя, поспехаў. *Казюль Маша.*

**Таццяну Уладзіміраўну Шыбеку**, мілую бабулю, віншуем з юбілеем! Жадаем здароўя і шчасця. *З павагай Мікалай і Надзея Маталыгі.*

**Таццяну Уладзіміраўну Шыбеку**, мілую бабулю, віншуем днём нараджэння! Здароўя і шчасця. *Вара і Жэня Смолікі.*

**Алу Анатолеўну Жукаву** віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў ва ўсіх справах. *Сябры і калегі.*

**Леаніда Аляксандравіча Корсака** віншуем з днём нараджэння. Здароўя, удачы, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Нявестка, сын, унукі.*

**Таццяну Шупеньку**, любую дачушку, віншуем з 20-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, прыгажосці, дабра і цяпла. *Тата і мама.*

**Таццяну Шупеньку** віншую з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, верных сяброў і ўзаемнага кахання. *Любімая сястрычка.*

**Настассю Валер'еўну Чубко** віншую з днём нараджэння! Жадаю ўсяго самага добрага, а галоўнае – ўзаемнага кахання. *Ганначка.*

**Алу Адамаўну Дудко** віншуем з днём нараджэння! Няхай лёс дорыць з кожным годам здароўе, шчасце, радасць і любоў. *Твае браты Мар'ян і Анатоль.*

**Але Адамаўне Дудко**! Дарагая наша мамачка, сардэчна віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем быць табе заўжды вясёлай, добрай і шчаслівай. *Муж, сын, дачка.*

**Леначку Малахаву** з днём нараджэння! Здароўя, Божай ласкі, спагадлівых людзей на тваім шляху. *Ганначка Чарапові́ч.*

**Танечку Шупеньку** віншуем з 20-годдзем. Няхай табе спадарожнічаюць здароўе, каханне, удача і збываюцца ўсе мары. *Суседзі.*

# ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына, 41/175/68, шукае спадарожніцу жыцця. Не красавец, не смурной, нет блондиночки со мной. 222310, Маладзечна-3, п/п МС 0281602.

Жанчына прыемнай знешнасці, 35/173, пазнаёміцца з нядрэнным мужчынам 30-40 гадоў. Смаргонь-2, п/п КН 0397943.

Мужчына, 45/160, вышэйшая адукацыя, пазнаёміцца з добрай, гаспадарлівай жанчынай, можна з дзіцем. 222310, Маладзечна-4, п/п ВЦ 010248.

Хлопец, 29/179/70, пазнаёміцца са звычайнай дзяўчынай для сур'ёзных адносін. 222310, Маладзечна-4, п/с 30.

Мужчына, 41/187, пазнаёміцца з жанчынай 30-40 гадоў. 222310, Маладзечна, Галоўпаштамт, п/п ОА 0000825.

## Кінатэатр «Радзіма»

**27-29 лютага.**
**Прэм'ера. "Брус усёмагутны"**, ЗША, камедыя. Сеансы: 27 лютага – у 17.00, 19.00 і 21.00, 28 і 29 лютага – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.
**1-8 сакавіка.**
**"Спецназ"**, ЗША, баявік – у 17.00, 19.00 і 21.00.

### Для дзяцей

**28, 29 лютага.**
**"Вясёлыя дзянькі на самым дзікім Захадзе"**, ЗША – у 13.00.
**28 лютага ў 11.00 — дабрачынны сеанс "Флюк"** (ЗША, рамантычная камедыя), сродкі ад якога будуць пералічаны на будаўніцтва бібліятэкі.

Кожную суботу ў 21.00 – дыскатэка.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.
**Прымаем калектыўныя заяўкі на правядзенне ранішнікаў да 8 Сакавіка** (можна з салодкім сталом).
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.



## Купон 9

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!
Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

■ ПАРАДЫ САДАВОДУ І АГАРОДНІКУ

# Што і як рабіць у сакавіку

У сакавіку адводзяць талую і дажджавую ваду з нізкіх месцаў (калі яна застаялася). Раніцай, калі яшчэ глебу трымае мароз, з усіх бакоў аглядаюць дрэвы і здымаюць з іх гнёзды шкоднікаў, выразаюць на штамбах і суках нарасты грыба-трутавіка. Раны змазваюць садовым варам, а грыб спальваюць.

Абчышчаюць штамбы дрэў ад гнілі і адмерзлай кары, імхоў і лішайнікаў, дэзінфіцыруюць 3-працэнтным (3 г на 100 г вады) растворам меднага купарвасу або марганцоўкі і зафарбоўваюць охрай на натуральнай аліфе.

Нарыхтоўваюць моцныя аднагадовыя чаранкі парэчак для веснавой пасадкі. Да набрыняння пупышак заканчваюць абрэзку дрэў, калі гэта не зрабілі раней. Наразаюць чаранкі для прышчэплівання і перапрышчэплівання з дрэў толькі тых сартоў, якія даюць прыгожыя, лежкія і транспартабельныя плады. Зрэзаныя чаранкі звязваюць у пучкі шпагатам. Захоўваюць іх у снезе або поліэтыленавым пакеце ў халадзільніку. Галоўнае, каб яны не засохлі і не распусціліся пупышкі.

Асабліва пільна аглядаюць пупышкі чорных парэчак. Калі яны не распускаюцца, а толькі надзьмуліся і акругліліся ў выглядзе качанчыкаў – расліны пашкоджаныя кляшчом. Калі на галінцы да 10 такіх пупышак, выштыпніце іх, а больш 10 – выражце ўсю галінку і спаліце.

А бывае, што асобныя кусты парэчак засыхаюць і ламаюцца нават ад невялікай нагрузкі, асяродак іх амаль да карання выедзены шматногім вусенем. Значыць, завялася шклянніца. Выразайце і знішчайце такія расліны на працягу 2-3 гадоў, і вы цалкам пазбавіцеся ад гэтага шкодніка без ядахімікатаў.

Агрэст вельмі ўспрымальны да мучністай расы. Захварэўшыя парасткі скрыўляюцца, пакрываюцца белым налётам і прыпыняюць рост. Іх таксама трэба выразаць і спальваць, а здаровыя кусты апырскваць разбаўленым вадой каравяком (1:3).

Пладовыя дрэвы і кусты найбольш мэтазгодна абразаць 8-12 сакавіка, прышчэпліваць яблыні і грушы – 22-27 сакавіка.

Агароднікі большасць работ выконваюць у закрытым грунце. Асаблівую ўвагу ўдзяляюць агуркам. Каб атрымаць паўнацэнныя плады, іх раз у сем дзён падкормліваюць агароднай сумессю (50 г на 10 л вады, 0,5 л такога раствору на расліну).

Калі на ніжнім баку лістоў з'яўляюцца светла-жоўтыя крапінкі ў выглядзе праколаў – на расліны напаў павуцінны клешч. Іх неадкладна трэба апырснуць настоем бульбоўніку, шалупіння цыбулі, выцяжкай часнаку (50 г на 10 л вады) або іншымі расліннымі прэпаратамі.

Згодна з месяцавым календаром, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі ўсіх культур дні — 3-5, 7, 16-18, 21, 30 і 31 сакавіка.

Месяц расце з 1 да 7 і з 21 да 31, убывае – з 7 да 21 сакавіка. Найбольш спрыяльныя для сяўбы на расаду агуркоў 1-3 і 24-26 сакавіка; памідораў – 1-3 і 24, 25; перцу – 13, 14; баклажанаў – 1-3, 24, 25 і 29; капусты – 1-3, 24, 25 і 29; салаты – 1-3 і 24-26; радыскі, морквы, пятрушкі для атрымання каранняплодаў – 8-12, 19 і 20 сакавіка. Сеяць трэба з 3 да 12 гадзін. 8-12, 19 і 20 сакавіка найбольш падыходзяць для яравізацыі бульбы.

У неспрыяльныя дні апрацоўвайце і апырсквайце расліны супраць хвароб і шкоднікаў, прапалвайце ад пустазелля. Палівайце ўсе культуры 1-3, 11, 12 і 29, 30 сакавіка.

**Альбін МАКАРЭВІЧ.**

## Народная мудрасць

Вясенні дзень год корміць.
Вясна красна, хоць і галадна.
Вясною дажджы не лішнія.
Вясна — не мясна, а восень – не малочна.
Страчанага вясною дня – не купіш.
Калі на лёд грыміць – тады вясна будзе халодная.
Калі ўпору пасееш, то ўпору і пажнеш.

## Выдумвай і стварай

**МАЛАДЗЕЧНА. У чацвер, 26 лютага, пачаўся традыцыйны абласны конкурс навукова-тэхнічнай творчасці навучэнцаў 8-11 класаў.**

На базе Маладзечанскага цэнтра пазашкольнай работы ён праводзіцца ўпершыню. Журы на канферэнцыі разгледзіць макеты прамысловых комплексаў, тэхнічныя цацкі, доследныя ўзоры транспартнай тэхнікі, спартыўныя снарады, арыгінальныя распрацоўкі бытавых прыбораў, камп'ютэрныя праграмы. Пасля канферэнцыі пачне працаваць творчая майстэрня «Ствараи, выдумвай, спрабуй».

**Святлана ЦІШКО.**

## Спявалі ўсе

**20 лютага ў Вілейскім гарадскім Палацы культуры адбыўся канцэрт, прысвечаны Дню абаронцаў Айчыны.**

Са святам віншавалі Вілейскі хор ветэранаў, узорна-паказальная студыя "Экспромт", ансамбль "Весялінка", гурток харэаграфіі "Сюрпрыз", а таксама калектыў супрацоўнікаў Вілейскага РАУС, Аляксандр Высоцкі, Наталля Салава, Вікторыя Захарыч, Мікалай Раманчук і іншыя.

**Марыя ЮШКЕВІЧ, Вілейка.**

## ■ ІМЯНІНЫ

**27 лютага**
**Праваслаўныя**: Абрама, Аўксенція, Ісака, Кірылы, Міхаіла, Фёдара. **Каталіцкія**: Анастасіі, Габрыеля, Леанарда.
**28 лютага**
**Праваслаўныя**: Ефрасінні, Анісіма, Яўсея, Пафнуція. **Каталіцкія**: Макара, Рамана.
**1 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Данілы, Ілы, Паўла, Юльяна. **Каталіцкія**: Антаніны, Альбіна, Фелікса.
**2 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Міны, Фёдара. **Каталіцкія**: Алены, Паўла, Радаслава, Сімпліцыя.
**3 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Кузьмы, Льва. **Каталіцкія**: Кунягунды, Марыны.
**4 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Архіпа, Багдана, Макара, Максіма, Філімона, Фёдара, Фядота, Яўгена. **Каталіцкія**: Люцыі, Казіміра.
**5 сакавіка**
**Праваслаўныя**: Агафона, Карнілы, Льва. **Каталіцкія**: Андрыяна, Вацлава, Фрыдэрыка.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



Прывітанне! Заданні, якія прапанаваў у мінулы раз Аляксей Шчасны, прыйшліся даспадобы. Адказаў прыйшло вельмі шмат. Правільна адказалі **Ігар Сільвановіч, Юрый Юхневіч, Дзмітрый Чаплінскі, Анастасія Дуровіч, Дзмітрый Пакладок, Максім Захарыч, Аляксандр Шастоўскі, Павел Рыскаленка** з Маладзечна. Фартуна, якой кіравала на гэты раз карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" Святлана Цішко, усміхнулася **Анастасіі Дуровіч, Максіму Захарычу і Паўлу Рыскаленку**. Віншую!

Адказы на мінулыя заданні:

1. Перасунуць палоскі трэба было так:

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | 4 | 9 | 0 | 5 | 1 | | | |
| | | | 3 | 1 | 4 | 5 | 14 | 9 | |
| 7 | 1 | 5 | 0 | 2 | 3 | | | | |
| | | | | 3 | 2 | 4 | 1 | 6 | 15 |
| | 6 | 3 | 2 | 4 | 1 | 5 | | | |
| 8 | 2 | 3 | 1 | 5 | 0 | | | | |

2. а) 250 = 24 + 13 + 31 + 16 + 17 + 35 + 53 + 11 + 21 + 14 + 15
б) 350 = 43 + 76 + 21 + 19 + 53 + 48 + 63 + 12 + 15

У гэтым выпуску азадачваць чытачоў дапамагае мне **Юрый Юхневіч** з Маладзечна, ён прапануе вельмі цікавую задачку.

Пасля доўгай разлукі сустрэлася двое старых сяброў. Адзін з іх паведаміў, што ў яго тры сыны, калі памножыць іх узрост, то атрымаецца 36, а сума іх узросту роўная колькасці акон дома, каля якога адбылася сустрэча. Другі сказаў, што ён не можа вызначыць узрост дзяцей. Тады першы дадаў, што яго старэйшы сын рыжы. Пасля чаго другі адразу ж назваў узрост дзяцей. Колькі гадоў было кожнаму сыну? Хачу зрабіць падказку, без якой рашыць задачу было б зусім цяжка: сума лічбаў ліку колькасці акон дома роўная 4.

І яшчэ адно заданне: запоўніце, калі ласка, клеткі лікамі ад 1 да 9 уключна так, каб па вертыкалях, гарызанталях атрымліваліся адказы ўжо змешчаныя ў матэматычным красвордзе.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | x | | : | | = | 3 |
| + | | : | | + | | |
| | − | | + | | = | 8 |
| − | | + | | : | | |
| | − | | + | | = | 12 |
| = | | = | | = | | |
| 1 | | 4 | | 2 | | |

Чакаю вашых адказаў да 5 сакавіка ўключна (будуць разыграны 4 білеты), а таксама лістоў з цікавымі задачкамі, рэбусамі, крыжаванкамі. Магчыма, менавіта яны з'явяцца ў нашых наступных выпусках.



Падрыхтавала Аксана КУЛЕЎНІЧ.

